Пролетары ўсіх краёў, злучайцеся!

# У дапамогу партвучобе

## БЮЛЕТЭНЬ
### АПАД ЦК І МЕНСКАГА АК КП(б)Б

№ 6—красавік 1929 г.




ВЫДАНЬНЕ ЦК КП(б)Б
МЕНСК—1929

*Пролетары ўсіх краёў, злучайцеся.*



## Памылкі друку.

| Стар. | Радок | Надрукавана | Чытаць |
|---|---|---|---|
| 19 | 21 зьверху | **прафсаюзы-школа камунізму.** | Нішто |
| 20 | 5 зьнізу | распрацоўкі пытаньняў | распрацоўкі бягучых пытаньняў |
| 20 | 4 зьнізу | , і праграмы якая зьмяшчаецца | праграмы, якія зьмяшчаны |
| 21 | 22 зьверху | контр-рэвалюцыі, ролі | Контр-рэвалюцыйнай ролі |
| 36 | 4 зьверху | прыпадае і гэтым годзе | прыпадае ў гэтым годзе |

На стар. 9 у артыкуле „увага падрыхтоўцы пропагандыстых" першую сноску „дзеля прыкладу возьмем школу шклянай гуты ў Менску" трэба чытаць у радок. За гэтым чытать 3-і абзац, потым 2-і і г. д.

У

Е



ВЫДАНЬНЕ ЦК КП(б)Б
МЕНСК

*Пролетары ўсіх краёў, злучайцеся.*




# У ДАПАМОГУ ПАРТВУЧОБЕ

## БЮЛЕТЭНЬ

### АПАД ЦК І МЕНСКАГА АК КП(б)Б

**№ 6—красавік 1929 г.**




ВЫДАНЬНЕ ЦК КП(б)Б
МЕНСК

# Organізацыя і мэтодыка партасьветы

## аб выніках комплектаваньня і папярэдніх выніках працы сеткі партасьветы на 1928-1929 г.

### (Пастанова Бюро ЦК КП(б)Б ад 22-VII—28 г.).

1. Адзначыць, што пры комплектаваньні сеткі партасьветы на 1928-1929 г. дабраахвотнасьць партвучобы сябе цалком апраўдала, што пры камплектаваньні выявілася значная зацікаўленасьць партыйцаў, комсамольцаў і беспартыйнага актыву вучобай, што першапачатковае комплектаваньне партсеткі дала значнае павялічэньне колькасьці займаючыхся ў параўнаньні з мінулым годам, і што пры некаторым павялічэньні абсолютнай колькасьці партыйцаў, паменьшыўся абхоп партыйцаў у адносіне да ўсёй парторганізацыі.

2. Разам з гэтым канстатаваць, што ў правядзеньні дабраахвотнасьці мелі месца цэлы шэраг скажэньняў. Ня толькі нізавыя кіруючыя парторганы, але раённыя і нават некаторыя акруговыя не ўявілі сабе досыць прынцыпаў у дабраахвотнасьці партвучобы, то разумеючы яе абмяжована (—„свабодны выбар форм вучобы, а не вучобы“), то спрошчана (адмовіўшыся ад кіраўніцтва партыі), Недастаткова популярызаваліся віды. формы і мэтоды партвучобы, не улічвалася падрыхтоўка асобных партыйцаў, а праводзілася мэханічны запіс згодна заявы. Былі таксама факты прымусу, аўтаматычнага сьпісачнага залічэньня.

3. Значна большае месца занялі сярэднія ступені партасьветы. У горадзе ўзрасла колькасьць вячпартшкол, асабліва з двухгадовым курсам; ўпяршыню організаваны савпартшколы ў большасьці вясковых раёнаў; разьвілося далей і пашыралася завочнае навучаньне, асабліва праз Гомельскую завочную савпартшколу. Разам з гэтым канстатаваць недастатковае разьвіцьцё прадметных гурткоў. асабліва па самаадукацыі, слабае распаўсюджаньне гурткоў бягучай політыкі і амаль што поўнае адсутнічаньне эпізодычных гурткоў, гурткоў па вывучэньню асобных проблем і г. д.

4. Канстатаваць, што значны адсеў, зрывы заняткаў, і недастатковая наведваемасьць паміма сб'ектыўных прычын (перагрузка грамадзкай працай і інш.) зьявілася вынікам памылак комплектаваньня (слабы вучот падрыхтоукі, запатрабаваньняў партыйцаў, недастатковае прыстасаваньне партвучобы да асобных

партыйцаў) і невыстарчальнай увязкі партвучобы з вырашэньнем практычных задач партыі ў даны пэрыяд.

5. Канстатаваць, што з выхадам бюлетэню „У дапамогу партвучобе“ створана магчымасьць для забясьпячэньня прапагандыста неабходнымі для работы матар'яламі і мэтодычнай дапамогай, але што да гэтага часу бюлетэнь „У дапамогу партвучобе“, дзякуючы спазьненьню некаторых матар'ялаў, а таксама цэламу шэрагу тэхнічных памылак, яшчэ мала здавальняе пропагандыстага.

6. Адзначыць усё яшчэ слабую тэорытычную і мэтодычную падрыхтоўку пераважнай большасьці пропагандыстых і адсутнічаньне сыстэматычнай плянавай работы па падвышэньню іх кваліфікацыі ў процэсе працы.

Ня гледзячы на тое, што рабочы-пропагандысты праяўляе сябе на прапагандысцкай рабоце цэлым шэрагам станоўчых бакоў (сувязь з вытворчасьцю. знаёмства з асяродзішчам, а таксама большая сумленнасьць у падрыхтоўцы да заняткаў), лік рабочых пропагандыстых вельмі нязначны, ня створаны таксама спрыяючыя умовы для росту іх колькасьці і для падвышэньня кваліфікацыі ужо працуючых.

У далейшай рабоце па комплектаваньню сеткі партасьветы і палепшаньню яё працы, зьвярнуць асаблівую увагу на наступныя задачы:

1. Дабіцца большай плянавасьці, як у разгортваньні сеткі партвучобы, так і выданьня падручнікаў, падрыхтоўкі пропагандыстых і кіраўніцтва усёй сеткай партвучобы.

2. Пашырыць сетку партасьветы, асабліва для поўнага абхопу рабочых, уноў уступаючых у партыю.

3. Дабіцца поўнай увязкі партвучобы з практычнымі задачамі партыі да прадпрыемства і вёскі ўключна.

4. Паляпшэньне ідэёвага зьместу партвучобы, барацьбу з ухіламі ад ленінскай лініі ў партыі і ўпрашчэнствам, паляпшэньня якасьці усёй працы па партвучобе, дзеля чаго:

1) Адразу пры сканчэньні 1928-29 навучальнага году пачаць шырокую растлумачальную работу па партвучобе, популярызуючы ўсе віды і формы і мэтоды партвучобы, скарыстоўваючы партсходы, сходы рабочых, сельска-гаспадарчых рабочых, беднаты, калгасьнікаў, друк, насьценгазеты, організуючы асобныя вечары пропаганды вучобы ў клюбах, хатах-чытальнях і г. д., растлумачыўшы прынцып дабраахвотнасьці.

2) З будучага году праводзіць комплектаваньне ў працягу ўсяго навучальнага году, ствараючы школы і гурткі для уноў завербаваных на вучобу, пры чым асаблівую увагу зьвярнуць на максымальны абхоп беспартыйных рабочых сеткай пертасьветы, на значнае павялічэньне абхопу жанчын, на стварэньне новых школ і груп для ўноў уступаючых у партыю рабочых, с. г. рабочых, калгасьнікаў, а таксама для беспартыйных рабочых, с. г. рабочыя і беднаты. АПА ЦК распрацаваць пытаньне аб стварэньні асобных школ політграматы пры савгасах і калгасах, а таксама

стварыць асобныя каротка-тэрміновыя школы для раскіданых партыйцаў на вёсцы, с.-г. рабочых, батракоў і беднаты, забясьпечыўшы іх інтэрнатам, харчаваньнем, вызваляючы іх ад працы. Наблізіць партвучобу да прадпрыемства, розных зьмен і г. д. Пры комплектаваньні рашуча праводзіць прынцып дабраахвотнасьці; комплектаваць сетку самаадукацыі адначасова з сеткай партвучобы.

3) Улічываючы, што да гэтага часу прапагандыстыя ў справе комплектаваньня мала ўдзельнічалі, лічыць неабходным усю папярэднюю растлумачальную і організацыйную работу, а таксама усю работу па комплектаваньню, ячэйкам праводзіць пры актыўным удзеле прапагандыстых.

4) Канстатаваць, што ў вёсцы сетка партасьветы амаль што цалком переведзена на беларускую мову, у горадзе-жа ў большасьці выпадкаў перавод на беларускую мову носіць толькі формальны характар. З будучага году правесьці поўнасьцю дырэктыву ЦК аб пераводзе усёй сеткі партвучобы у горадзе на беларускую мову, адначасова забясьпечыць умовы для партвучобы на мовах нацменьшасьцяй, у прыватнасьці стварыўшы рухомыя школы для іх на дзяржаўным бюджэцэ.

5) Улічываючы вялікую зацікаўленасьць у агульна-адукацыйных прадметах партыйцаў, а таксама разнабой у гэтай справе, прапанаваць АПА ЦК распрацаваць пытаньне аб увядзеньні агульна-адукацыйных прадметаў у сетку партвучобы ў 2 месяцы і аб увязцы гэтых прадметаў з партвучобай, адначасова распрацаваць мерапрыемствы па палепшаньню пастаноўкі грамадазнаўства і політграматы у агульна-адукацыйных школах для дарослых.

6) Пры комплектаваньні зьвярнуць асаблівую увагу на стварэньне эпізодычных гурткоў па вывучэньню асобных проблем, а таксама—на стварэньне адпаведных умоў, пры якіх была-б забясьпечана увязка работы школ і гурткоў з практычным задачамі партыі, ліквідаваньне зрыву заняткаў (пасежаньні і сходы ў часе заняткаў і г. д.). Прапанаваць АПА Акругкомаў забраніраваць ня меньш 2-х дзён у тыдзень на партвучобу.

7) Прапанаваць АПА ЦК і рэдакцыі бюлетэню „У дапамогу партвучобе“ сваечасова забясьпечыць сетку партасьветы адпаведнымі матар'ямі, мэтодраспрацоўкамі і заданьнямі, асабліва па бягучым пытаньням; прыняць неабходныя меры да сваечасовай рассылкі бюлетэню і ліквідацыі тэхнічных памылак у яго выданьні.

8) Лічучы ахоп партактыву вучобай нездавальняючым, прапанаваць АПА і Оргаддзелу распрацаваць меры па стварэньню умоў для вучобы партактыву, у прыватнасьці дабіўшыся патрэбнай разгрузкі завочнікаў, забясьпячэньня марксыцка-ленінскай літаратурай раённага актыву, асабліва забясьпечыўшы ўмовы для вучобы вылучаных для падрыхтоўкі 150 таварышоў.

9) Канстатуючы, што АПА габінэты ў акругох за апошні год лепш сталі абслугоўваць сетку партасьветы (падбор мясцовага матар'ялу, пастаноўка консультацый і г. д.) лічыць неабходным

зрабіць іх цэнтрам лябараторнай праработкі пытаньняў кіраўніцтва партработай, падбору матар'ялау і інструктаваньня у гэтым пытаньні раёнаў.

10) АПА і БДВ у працягу 1929-30 нав. году, выдаць марксыцка-ленінскую бібліотэчку на беларускай мове (10—12 назваў —для раённага актыву). АПА і БДВ не пазьней мая месяца прыступіць да падрыхтоўкі падручнікаў (асабліва для АПШ), прыстасаваных да умоў у БССР, у тым ліку аграграмату, гісторыю КПбБ з тым, каб друкаваньне іх было скончана не пазьней 15 жніўня.

11) У мэтах падрыхтоўкі пропагандыстых лічыць неабходным правесьці наступныя марапрыемствы: а) склікаць цэнтральныя курсы штатных пропагандыстых на 2 месяцы, на 100 чал.; забясьпечыўшы іх неабходнымі кіраўнікамі, літаратурай, інтэрнатамі, і харчаваньнем. На курсах выдзеліць групу таварышоў для падрыхтоўкі ў якасьці кіраўнікоў самаадукацыяй, забясьпечыўшы у програме дастатковую ўвагу пытаньням самаадукацыі. Наркамасьветы забясьпечыць сродкамі; б) прапанаваць Акругкомам зараз-жа высунуць рабочых ад варштату на прапагандысцкую работу, а таксама с. г. рабочых і батракоў на вёсцы з курсантаў ВПШ, вячэрніх і нядзельных камвузаў, сеткі самаадукацыі, распачаўшы з імі зараз-жа падрыхтоўку, вызваліўшы ад грамадзкай нагрузкі, а таксама вызваліўшы іх на час летняй падрыхтоўкі ад працы, арганізаваўшы 2-х месячныя летнія курсы пропагандыстых; в) падрыхтаваць організацыю з восені 1929 г. больш працяглых вячэрніх курсаў па падрыхтоўцы рабочых пропагандыстых (5—6 месяцаў) а таксама праводзіць завочную падрыхтоўку з дадатковымі курсамі-конфэрэнцыямі для вылучаных рабочых прапагандыстых; г) Забясьпечыць рабочага пропагандыста магчымасьцю падрыхтоўкі да заняткаў і падвышэньня яго кваліфікацыі, аслабаніўшы 50 чал. за кошт сродкаў партасьветы на адзін дзень у тыдзень ад работы, наладзіўшы рэгулярную работу проп. колектываў, забясьпечыўшы яго літаратурай і інш.

12. Прымаючы пад увагу, што ў цэлым шэрагу вясковых раёнаў меў месца зрыў партвучобы, і разгортваньне яе пачалося толькі ў студзені—лютым месяцы, Акругкомам заслухаць даклад аб становішчы партвучобы і прыняць меры да забясьпечэньня найбольш нормальнага ходу заняткаў да канца навучальнага году.

---

# Важнейшыя вывады Менскай Акруговай Агітпропнарады.

Што работа па падвышэньні ідэёва-тэорытычнага ўзроўню членаў партыі мае выключнае значэньне, прызнаюць усе.

Усе таксама згодны і з тым, што гэтай рабоце трэба ўдзяліць адпаведную ўвагу. Але прызнаньні так і застаюцца пры-

знаньнямі, а работа па партасьвеце паранейшаму застаецца надзвычайна слабай. Да такога вываду, пасьля дэтальнага азнаямленьня з становішчам на мясцох, прышле акруговая нарада раённых пропагандыстых і агітпроппрацаўнікоў Менскае акругі, якая нядаўна скончылася.

Малюнак становішча з работай па партадукацыі. даны выступіўшымі на нарадзе мясцовымі працаўнікамі, атрымаўся сапраўды сумны.

Хто вінават у гэтым? У першую чаргу—парторганізацыі і менш за ўсё, зрузумела самі вучні.

Паўпагардлівыя адносіны да партвучобы прывялі да таго, што ў гэтым навучальным годзе комплектаваньня сеткі праводзілася вельмі дрэнна: Дзякуючы часткова няўмеламу і формальнаму адбору слухачоў, мы мелі значны процант адсеву слухачоў і невыстарчальнае ўсваеньне імі програмы.

Калі комплектаваньне мела вялікае значэньне пры абавязковасьці вучобы, то пры яе поўнай дабраахвотнасьці, пытаньне комплектаваньня набывае рашаючае значэньне. А мы не здолелі нават у выстарчальнай ступені растлумачыць партыйным і беспартыйным масам сутнасьць дабраахвотнасьці вучобы.

Прынцып дабраахвотнасьці пры комплектаваньні ў цэлым шэрагу выпадкаў парушаўся груба. Ячэйкі—галоўнейшай задачай якіх зьяўляецца партвыхаваўчая праца, амаль не зьвярталі ўвагі на партвучобу (у прыватнасьці ня было амаль выпадку, каб ячэйкі на агульных сходах ставілі пытаньні партасьветы).

Такое становішча, калі ячэйкі адхіляюцца ад работы і адказнасьці за пастаноўку вучобы, зьяўляюцца зусім недапушчальным. З такім самаадхіленьнем трэба павесьці жорсткую барацьбу. Аб тым, што кіраўнікі школ слаба падрыхтаваны, як палітычна, так асабліва мэтодычна, гаварылі ўсе ўдзельнікі Менскае акруговае нарады. Гэтая акалічнасьць асабліва моцна адбіваецца на рабоце сеткі.

Тут трэба проста сказаць, зусім мала зроблена для того, каб падрыхтаваць кіраўнікоў школ да іх такой адказнай працы.

У выніку гэтага мы маем формальную прапрацоўку програмы па кніжцы без усякай сувязі з бягучай сапраўднасьцьцю і асабліва з мясцовым матар‘ялам—гэта ў лепшым выпадку, а ў горшым, а гэта на жаль зьявішча даволі частае, шкодную „адсебяціну“ і няпісьменную блытаніну. Ня ў лепшым становішчы ў сэнсе магчымасьці працаваць над сабою, рыхтавацца да заняткаў знаходзяцца і самі раённыя прапагандыстыя. І яны нагружаны праз меру усякай работай. У сучасны момант ніхто ня палічыць магчымым, напрыклад, зрываць з работы партыйца грамадазнаўца з сямёхгодкі і паслаць яго, скажам у вёску для правядзеньня якой-небудзь кампаніі; кіруючыя партыйныя працаўнікі досыць усьвядомлены у неабходнасьці рэгулярных заняткаў у агульнай школе. Але ўсякі лічыць зусім магчымым „заганяць“ пропагандыстага ў найбольш далёка адлеглы сельсавет для правядзеньня тэй ці інш. кампаніі.

Партасьвета „пачакае“ на яе не хапае—пасьпеецца. Гэтым лепш за ўсё характарызуюцца адносны партарганізацыі да пытаньня партасьветы. Шкода справе ад такіх адносін вялічэзная.

У працягу ўсяго пэрыоду нізавая сетка працавала ўсяго каля 3-х месяцаў. Галоўнай прычынай гэтага па думцы ўсіх удзельнікаў нарады зьяўляецца шмат кампаній. Але было б усе-ж няправільна усю віну за кароткі тэрмін заняткаў узвальваць на кампаніі. Па-першае, таму, што за пэрыод верасень—люты работнікі не сядзелі 3½ месяцы ў вёсцы, а па другое, у кампаніях ня ўдзельнічае ўся парторганізацыя, а па-трэцьце, у нашых школах займаецца значная група беспартыйных сялян, служачых, якія знаходзяцца на месцы і маюць магчымасьць рэгулярна займацца. Значыць звальваць усе на кампаніі,—валіць з хворай галавы на здаровую.

Гэта трэба сказаць з ўсёй рэзкасьцьцю. На нарадзе таксама выявілась, што ў асабліва дрэнным становішчы знаходзіцца справа арганізацыі работы па самаадукацыі. Самаадукацыя—самаабман—так формулёваў сваё адносіны да самаадукацыі шэраг раённых працаўнікоў—удзельнікаў нарады. Гэтыя адносіны зусім зразумелы: Яны тлумачыцца тым, што мы ня здолелі арганізаваць хоць крыху здавальняюча работу па самаадукацыі. а галоўнае—аб чым трэба асабліва памятаваць, гэта тое, што самаадукацыя патрабуе ад саміх вучняў максымальнай ініцыятывы і самадысцыпліны.

Здавалася б, што прапрацоўка пастаноў Лістападаўскага пленуму ЦК Усе КП(б) і VI Конгрэсу Комінтэрну павінна была заняць важнейшае месца ў рабоце сеткі, а што мы маем сапраўды? За выключэньнем Смалявіцкай савпартшколы, якая удзяліла Лістападаўскаму пленуму 15 гадзін, усе іншыя арганізацыі абмяжаваліся пастаноўкай дакладау на агульных сходах ячэек і раёных партсходах. Такі „вынік“ трэба лічыць нездавальняючым. Раённым арганізацыям трэба націснуць на тое, каб пры прапрацоўцы вынікаў работы XII Зьезду КП(б)Б папоўніць прабелы невыстарчальнага вывучэньня пастаноў Лістападаўскага пленуму.

А ўплыў работы сеткі на рост партыі?

У нашых-жа школах займаецца значная колькасьць беспартыйных таварышоў. На жаль акрамя Койданаўскага раёну, дзе адзначаны выпадкі падачы заяў слухачамі аб прыняцьці іх у партыю, ніхто больш з раённых таварышоў такіх выпадкаў у сваіх дакладах ня прыводзіў. Відавачна гэтых выпадкаў і ня было.

Падводзячы агульныя вынікі трэба сказаць наступнае:

Сетка партасьветы мала зрабіла для растлумачэньня генэральнай лініі партыі, яўна невыстарчальна знаёміла сваіх слухачоў з сутнасьцю і небясьпекаю ўхілаў ад лініі партыі, асабліва правага ўхілу, найбольш нябясьпечнага на даным этапе. Мала мела ўплыву наша школа і на рост партыйных вясковых органі-

зацый. Значыць асноўныя свае задачы сетка партасьветы па акрузе за першае навучальнае паўгодзьдзе выканала слаба. Гэта прымушае нас біць трывогу. Трэба каб і парторганізацыі акругі, ад акруговых да ячэек ужылі ўсе патрэбныя меры да паляпшэньня работы сеткі. Трэба неадкладна і рашуча пакончыць з нядбайнымі адносінамі да партасьветы. Усю працу школ, гурткоў, усей сыстемы палітвучобы неабходна ўзяць пад агонь жорсткай самакрытыкі. Толькі пры гэтых умовах партасьвета зойме адпаведнае месца ва ўсей сыстэме партыйнай работы.

**Цэнцыпер**

---

# Увага падрыхтоўцы пропагандыстых

## (У парадку абгаварэньня).

Папярэднія вынікі пастаноўкі партыйнай асьветы на Беларусі гавораць аб тым, што якасьць гэтай пастаноўкі застаўляе чакаць шмат лепшага. Пры чым, вельмі часта шукаюць прычын гэтай дрэннай якасьці зусім не там дзе патрэбна. Гутаркі аб зрывах з-за кампаньній, не наведваньне з-за перагрузкі living рознымі іншымі абавязкамі, асабліва у дні партыйнае асьветы нядбайныя адносіны з боку ячэйкі зьяўляецца слаба ўгрунтованымі*).

Што ўсё-ж такі цікавіць гэтых таварышоў, каб у нядзелю (у выхадны дзень) абавязкова ісьці ў школу? Тое, па-мойму, што кіраўнік школы сапраўды здолеў зацікавіць слухачоў пастаноўкай працы. Возьмем, напрыклад, прапрацоўку пастаноў XII Зьезду КП(б)Б ў гэтай школе пытаньнем аб профсаюзах. Кіраўнік асноўныя пытаньні тэмы пабудаваў так, выкарыстаўшы мясцовы матар'ял.

У гэтай школе і наведваньне заняткаў добрае і зацікаўленасьць вучобай.

Гэткая пастаноўка выклікала шмат спрэчак, выклікала актыўнасьць слухачоў і дала магчымасьць дасканаля прапрацаваць тэму. Гэтая тэма взята таму, што яе няма ў програме і тым ня менш, кіраўнік здолеў яе выкарыстаць так, каб увязаць яе з ўсей програмай і не зьменшыў, а наадварот павялічыў гэтым зацікаўленасьць слухачоў школай*).

А шмат у нас такіх школ?

Вельмі мала. Апошняя нарада пропагандыстых Менскае акругі, абсьледваньне сыстэмы партыйнай асьветы **па самому гораду Менску**, гавораць аб тым, што мясцовы матар'ял у сыстэме партыйнай асьветы выкарыстоўваецца ў слабай меры, а ў некато-

---

*) Дзеля прыкладу возьмем школу шклявай гуты ў Менску.

*) Больш падрабязна аб пастаноўцы працы ў гэтай школе будзе сказана ў наступным нумары.



рых мясцох нават зусім не выкарыстоўваецца; гутаркі праводзяцца абстрактна, матар'ял слаба ўвязваецца з сучаснасьцьцю; такія пытаньні, як гаспадарчыя цяжкасьці, пытаньні калдагаворнай кампаніі, пытаньні правага ўхілу—не атрымалі выстарчальнага адбітку ў працы школ. Я ужо не кажу аб тым, што нават у горадзе Менску АПШ вельмі мала зрабіла для таго каб прыўчыць слухача да самастойнай працы над кнігай, газэтай і інш. матар'ялам, чым не выканала асноўнай сваей мэты. (бо сапраўды ці нам начотчыкі патрэбны?). А колькі назіраецца прыкладаў поўнага скажэньня ідэёвага зьместу матар'ялу?

Усе гэтыя пытаньні маюць цеснае дачыненьне да пытаньня падрыхтоўкі пропагандыстых.

Ніхто ня будзе спрачацца, што рабочы пропагандысты, які будзе працаваць у школе на сваім прадпрыемстве, бясспрэчна лепш здолее ўвязаць працу школы з мясцовым матар'ялам і з сучаснасьцьцю.

Ці заўсёды гэта будзе? Не. Калі да справы падрыхтоўкі рабочых пропагандыстых будуць падходзіць так, як падходзілі ў мінулым годзе ў Менскай акрузе (Менск-Барысаў). калі укомплектаваньне гэтых курсаў будзе праводзіцца бяз ўлічэньня на-колькі гэтыя таварышы падрыхтаваны да таго, каб быць пропагандыстамі, як з боку тэорэтычнай падрыхтоўкі так і па ўмовах сваёй працы; вядома, што патрэбнасьць у прапагандыстых ня будзе забесьпечена ды і выдаткі не апраўдаюць сябе.

Якія ж у сувязі з гэтым паўстаюць перад намі задачы?

Па першае, за падрыхтоўку вылучаных на летнія курсы рабочых-пропагандыстых трэба прыступіць ужо зараз да пачатку заняткаў на гэтых курсах.

2. Патрэбна мець на ўвазе, што адначасова з неабходнасьцьцю падрыхтаваць пропагандыстых для сеткі адзінае партыйнае школы, разьвіцьце сярэдняй ступені партыйнае асьветы вымагае ад нас пачаць падрыхтоўку кіраўнікоў і для гэта сеткі, асабліва для прадметных гурткоў, а ў буйных цэнтрах нават і для кіраўнікоў самаадукацыяй у ячэйках.

3. Галоўнай крыніцай адкуль будуць вылучацца слухачы павінны зьяўляцца саўпартшколы, нядзельныя і вячэрнія Камвузы.

4. З вылучанымі таварышамі, якіх павінна быць у два разы больш, чым можна будзе прапусьціць праз курсы, не пазьней 10 красавіка (СПШ, Вяч. Камвуз, Нядз. Камвуз) пачаць папярэднюю працу, шляхам даручэньня гэтым таварышом распрацоўкі і вывучэньня больш грунтоўных заданьняў, больш сталай працы, літаратура максымум па тых дысцыплінах, якія яны праходяць у сваёй школе. Аб гэтым павінны паклапаціцца загадчыкі школ і настаўнікі.

5. Вызваліць усіх вылучаных таварышоў да канца працы школы ад усіх іншых партыйных нагрузак з тым, каб кожны вылучаны таварыш здолеў аддаць дадаткова для гэтай падрыхтоўкі ня меньш 4-х гадзін у тыдзень.

6. Растлумачыць усім вылучаным таварышом, што двухмесячныя падрыхтоўчыя курсы гэтага году зьяўляюцца пачаткам іх заняткаў, што на працягу бліжэйшых двух год працы іх у якасьці прапагандыстых, яны атрымаюць сталую падрыхтоўку для савпартшкольцаў, прыблізна з разьмеры завочнага КомВНУ, а для камвузаўцаў у разьмеры прыблізна падрыхтоўчага курсу Інстыт. Чырв. прафэсуры. Дзеля таго, каб даць магчымасьць весьці сталую працу над сабой, яны на працягу ўсяго часу знаходжаньня ў школе будуць вызваляцца на адзін дзень ад работы, дзеля падрыхтоўкі. Трэба ўжо зараз заняцца распрацоўкай програмы, і сыстэматычнай працы з імі.

7. Програмы двухмесячных курсаў як акруговых, так і цэнтральных, павіны ўключаць у сябе і тэорэтычныя і мэтодычныя пытаньні і павінны быць прыстасаваны да груп пропагандыстых, якія мы будзем рыхтаваць. У програмах сталае месца павінна быць адведзена пытаньням організацыі мэтодыкі і кіраўніцтва самаадукацыяй. Вядома гэтым не вычэрпаюцца ўсе практычныя прапановы, якія ўжо магчыма даць па гэтаму пытаньню, гэта толькі асноўныя моманты:

Вось чаму, я лічу, што вызваленьне па ўсёй Беларусі дзеля падрыхтоўкі да заняткаў на адзін дзень толькі 50 прапагандыстых, зьяўляецца невыстарчальным. 50 чал. гэта, прыблізна, па 10 чал. на акругу, гэта пры падрыхтоўцы 60—80 рабочых пропагандыстых не „спакушаных“ у пропагандысцкай працы, якім патрэбна асаблівае падрыхтоўка. Бо у гэтым годзе нават Камвузаўцы, скардзіліся на тое, што дрэная пастаноўка працы ў школе зьяўляецца вынікам адсутнасьці часу для падрыхтоўкі (трэба памятаць, што гэтыя таварышы ў парадку экадэмічнай працы адводзілі дзеля падрыхтоўкі ня меньш 4-х гадзін у тыдзень).

Адным з момантаў магчымага пярэчаньня супроць вызваленьня рабочых - прапагандыстых, можа быць ссылка на „канвэйерную сыстэму“? Я лічу гэтае, мажлівае пярэчэньне ня ўгрунтаваным бо гэта ж не выпадковы на выхад не працу, а загадая ўлічаны момант **на цэлы навучальны год**, пры чым на кожным прадпрыемстве будзе ня больш 3-4 чалавек, якіх лёгка магчыма замяніць без „школы“ і бяз „парушэньня“ конвэйеру, а супроць таго, што гэта прынясе вялікую карысьць, наўрад ці хто будзе спрачацца.

**Велькоў.**

---

# Рабочы плян пропагандыста

Рабочым плянам пропагандыста мы называем больш ці менш распрацаваны плян занятку як падрыхтоўчага, так і контрольнага. У гэтым лісьце мы спынімся на законах і тэхніцы пабудаваньня рабочага пляну для контрольнага занятку (гутаркі).

## 1. Законы пабудаваньня рабочага пляну гутаркі

Складаючы свой рабочы плян гутаркі, пропагандысту, трэба выходзіць з наступных прадпасылак:

1) аб'ёму гутаркі;
2) зьместу гутаркі;
3) нормы ўсвайваньня ведаў.

Ставячы перад собой пытаньне аб аб'ёме гутаркі—пропагандысту трэба памятаць аб крыніцах ведаў, каторыя, разам взятыя, складаюць аб'ем жывой гутаркі.

Першая і асноўная крыніца ведаў,—гэты матар'ял вычытаны і ўсвоены з асноўнага падручніка і дадатковых дапаможнікаў (дадатковай літаратуры, дыяграм, карты і г. д). Аб тым, нескалькі ўсвоены гэтыя веды, пропагандысты прыблізна можа меркваць па ўсваяемасьці на падрыхтоўчым занятку.

Другая крыніца ведаў,—гэта так званая асабістая жыцьцёвая практыка і запас ведаў саміх навучаючыхся, г-зн, той багаж уяўленьняў ці паняцьцяў, які навучаючымся асабіста пераажыты ці ўсвоен раней шляхам чытаньня літаратуры, папярэдняй вучобы і ўдзелу ў грамадзкім жыцьці. Аб'ем гэтага „багажу" надзвычайна цяжка бывае ўлічыць загадзя. Але гэтую „практыку" трэба абавязкова мець на ўвазе, па-першае, дзеля таго, каб замацаваць пры дапамозе яе ў памяці навучаючыхся кніжныя веды, па-другое, таму што яна няўхільна зьявіцца ў процэсе гутаркі, загружаючы яе новым ці пастароньнім, дэталізуючым ці паглыбляючым матар'ялам. Напрыклад, калі ставіцца пытаньне аб грамадзянскай вайне, калі ў школе многа ўдзельнікау грамадзянскае вайны, трэба выстарчальнае месца адвесьці для асабістых успамінаў навучаючыхся—удзельнікаў вайны і г. д.

Трэцяя крыніца—гэта тыя дапаўненьні кіраўніка, якія будуць давацца ў процэсе заняткаў у мэтах узмацненьня прапрацоўкі і замацаваньня ў памяці асноўных палажэньняў гутаркі. Сама сабой зразумела, што дапауняючы плян тым ці іншым сваім выступленьнем, кіраўнік, перад сваім выступленьнем павінен дабівацца патрэбных ведаў ад навучаючыхся (тутака „практыка" навучаючыхся часам можам тварыць нечаканыя „дзівы").

Зьмест гутаркі ў сваю чаргу вызначаецца: па-першае, неабходным мінімумам палітычных ведаў, якія пред'яўляе партыя кожнаму комуністу па пэўным пытаньні ў даны момант; па-другое, запытаньнямі і настроямі навучаючыхся, якія вызначаюцца як асабыстымі патрэбнасьцямі і пераажываньнямі ў даны момант, так і патрэбнасьцямі абкружаючага асяродзьзя.

Усякаму вядома, што як фізычная так і ўмысловая праца чалавека магчыма толькі ў межах наяўнага запасу энэргіі. Як толькі гэтыя запасы канчаюцца,—чалавек губляе здольнасьць да працы. Высіленьне запасаў мазгавой энэргіі як правіла выклікае прытупленьне ўважлівасьці, зьмяншэньне зацікаўленасьці, што звонку выражаецца ў пазіханьнях, у занятках іншымі справамі,

гутаркамі, бязглузьдзіцай. Прыблізна гэткія-ж зьявішчы назіраюцца, калі зьмест пытаньня, якое прапрацоўваецца „цяжкі“, г-зн. непасільны ўспрыяцьцю і ўсваеньню. Кіруючыся сваімі назіраньнямі над усваяемасьцю і стомленьнасьцю навучаючыхся ў процэсе заняткаў школы, пропагандысты можа прыблізна ўстановіць норму ўсваеньня і мэханічнае яе выражэньне—„норму часу“, г-зн. працягласьць занятку.

Складаючы свой рабочы плян гутаркі на падставе зьместу програмы з мясцовымі і сучаснымі да яе дадаткамі,—пропагандысты абавязан рэгуляваць яго (рабочы плян), аб'ем і якасьць зьместу, улічваючы пры гэтым сярэднюю норму ўсвойваньня, тыповую для склада данай аўдыторыі.

## II. Тэхніка пабудаваньня рабочага пляну гутаркі.

Асноўны дапаможнік, па якому складаецца рабочы плян гутаркі — падручнік. Чытаючы яго — пропагандысты вызначае асноўную лінію (так зван. мэту гутаркі) і складае асноўную схэму. Возьмем для прыкладу разьдзел XV па „Азб. Ленінізму“—Кержанцава і Леонцьева „Барацьба за адзінства партыі“.

Прачытаўшы гэты разьдзел—ня цяжка вызначыць асноўны стрыжань яго зьместу і вызначыць асноўную лінію „мэту“ гутаркі, нарыкл., наступным чынам:

1. Растлумачыць опортуністычную сутнасьць правых і левых ухілаў;

2. Ахарактэрызаваць умовы і карэньні гэтых ухілаў на розных этапах гісторыі партыі;

3. Азнаёміць з мэтодамі барацьбы супроць ухілаў у розных стадыях іх афармленьня (ухіл, групоўка, фракцыя, партыя).

У падручіку ўвесь змест разьдзелу падзелены на пяць параграфаў (§§). У рабочем пляне гутаркі гэтыя параграфы можна „падзяліць“ на „часткі“ гутаркі. Паводле падручніка іх павінна быць пяць: 1. „Спрэчкі аб Берасьцейскім міру“, 2. „Барацьба пры пераходзе да НЭП'у“, 3. „Дыскусія 1923-24 г.“, 4. Барацьба пад час XIV зьезду“ 5. „Ад фракцыі да другой партыі“). Аднак, следуючы правілу: „даваць неабходны мінімум палітычных ведаў, які патрабуе партыя ад кожнага комуніста па пэўным пытаньні ў даны момант“, пропагандысты павінен будзе да пералічаных пяці „частак“ дадаць шостую „Аб правым ухіле і прымірэнцтве ў партыі“. Такім чынам асноўная схэма гутаркі (разьдзелу), а таксама асноўны крытэры для далейшай прапрацоўкі пляну („мэта гутаркі)“—падрыхтаваны.

Пасьля гэтага яшчэ раз уважліва праглядаецца кожны параграф з падручніка, а таксама тыя асноўныя дапаможнікі, якія ёсьць па пытаньні аб правым ухіле і прымірэнцтве (скажам, прамова тав. Сталіна на Лістападаўскім пленуме ЦК УсеКП(б). У процэсе гэтага чытаньня адзначаецца асноўная сутнасьць зьместу кожнага параграфу (адпаведна пастаўлена „мэце гутаркі“), так

званыя вузловыя моманты. У пляне гутаркі яны звычайна называюцца „вузламі гутаркі“ ці „вузлавымі пытаньнямі“. Калі „вузел“ па аб‘ему зьместу вялікі ці, калі немагчыма спадзявацца, што на „вузлавое пытаньне адказ будзе зараз-жа — то яно падзяляецца на больш дробныя часткі—„дэталі“ці „дэталізуючыя пытаньні“. Спрабуем, для прыкладку, зрабіць адпаведную опэрацыю над другім параграфам XV разьдзелу (гутаркі) г.-зн. скласьці **першапачатковы** плян „другой часткі гутаркі“.

II параграф „Барацьба ў партыі пры пераходзе да НЭП‘у.

I вузел, У чым **памылковасьць позыцыі Троцкага ў пытаньні аб прафсаюзах?**.

1. (дэталь) Якая асноўная задача прафсаюзаў па думцы Троцкага? т. Леніна?

2. (дэталь) Чаму дыскусія аб прафсаюзах была не сваячасовай? (Да чаго прывяла бы краіну перамогу пункту гляджаньня Троцкага?).

3. (дэталь) Чаму гэтае выступленьне Троцкага зьяўлялася фракцыйным? Якое яно было па характару „левым“ ці „правым“?

II вузел. У чым заключаецца дробна-буржуазны, анарха-сындыкалісцкі хар:ктар пляцформы Шляпнікаўскай „Рабочай опазыцыі“?

1. (дэталь) Як Шляпнікаў прапанаваў рэорганізаваць профсаюзы і кіраўніцтва гаспадаркай краіны?

2. (дэталь) Чаму Шляпнікаўская лінія—лінія дробна-буржуазная? (Ці трэба „рабочую опазыцыю“ прылічаць да „левых“ ці „правых“?).

3. (дэталь) Як адбывалася барацьба партыі з „рабочай опозыцыяй“?) Што такое рабочая опозыцыя“—ухіл, фракцыя, групоўка ці партыя? Заключэньне па разьдзелу: Просты адказ на I-е і II-е вузлавыя пытаньні.

Даны плян, як відна мае **два** вузлавых і **шэсьць** дэталізуючых пытаньняў. Па некаторых з апошніх пададзены ў дужках асобныя пытаньні, на якія ў надручніку непасрэднага адказу няма але якія пашыраюць паглыбляюць прапрацоўку і задаюць ёй тым самым большую цікавасьць, узнімаючы самадзейнасьць навучаючыхся.

Гэтак сама як і „II раздзел гутаркі“—распрацоўваецца **першапачатковы** плян рэшты пяці разьдзелаў (частак параграфаў).

Гэта—першы „чарнавы“ этап складаньня рабочага пляну гутаркі.

Пасьля гэтага трэба прарабіць ня менш сур‘езную працу па прыстасаваньні чарнавога пляну да рэальных умоў працы школы, выходзячы з пералічаных вышэй „законаў надбудовы рабочага пляну гутаркі“.

Перш за ўсё вызначаецца „аб‘ём гутаркі“, выходзячы прыблізна з наступнага разліку часу на адзін занятак (гутарку) можа быць патрачана каля 2 гадзін, ці ў сярэднім на кожны разьдзел (частку, параграф) гутаркі 15-25 хвілін, гледзячы па насычанасьці

разьдзелаў зьместам. Дапусьцім, на прапрацоўку распрацаванага намі II разьдзелу (часткі) мы трацім 18 хвілін, г-з. каля 2-х хвілін на кожную дэталь. Супастаўляючы гэтыя межы часу з актыўнасьцю і падрыхтаванасьцю сваіх слухачоў, прапагандысты павінен вырашыць пытаньне: трэба ці ня трэба скараціць плян. Калі трэба—у першую чаргу выкідваюцца (скажам у II разьдзеле пляну) пытаньні пастаўленыя ў дужках, выкідваюцца асобныя дэталі без каторых як ніяк можна абыйціся, не парушаючы прапрацоўкі асноўнага (напрыкл 2-ю дэталь і вузла) і г. д.

Пры ўсім гэтым пропагандысты не павінен забываць другую важную задачу—забясьпечэньне **пэўнае якасьці зьместу** гутаркі. „Таму падчыстка“ ці „разгрузка“ першапачатковага (чарнавога) пляну павінна адначасова спалучацца з новымі дадаткамі, выходзячы з неабходнага палітмінімуму ведаў па даным пытаньні і „наяўных запытаньняў і настрояў навучаючыхся“, маючых сувязь з прапрацоўваемым пытаньнем.

Паміма ўсяго гэтага адначасова пропагандыстысты адзначае на палёх пляну супроць адпаведнага „вузла“ ці „дэталі“ якімі докумэнтамі, цытатамі і інш. фактычнымі матар'яламі і навочнымі дапаможнікамі (інакш кажучы „ілюстрацыямі“) ён мае намер карыстацца ў процэсе гутаркі.

У пачатку гутаркі—пляну паказваецца сьцісла „ўступленьне“, (г.-зн. зьмест мэты гутаркі. У канцы—агульнае заключэньне па гутарцы, якое мае ў сабе непасрэдны адказ на пастаўленыя „мэтавыя задачы“.

Усё гэтае ўступленьне, разьдзелы (часткі), агульнае заключэньне—і складаюць „рабочы плян гутаркі“.

У першы час для маласпрактыкаванага пропагандыста скласьці гэткі плян нялёгкая задача і гэта патрабуе некалькі гадзін працы. Але з цягам часу ўся гэтая праца, разам з прачытаньнем матар'ялаў, зойме ня больш 2—2 і 2 гадзін. Бяз гэткай старанай працы нельга перастаць быць мучыцелем слухачоў і стаць добрым, лёгка і чотка працуючым пропагандыстым.

**Ф. Медэн.**

---

## Што перашкаджае разьвіцьцю самаадукацыі.

У сыстэме нашай партасьветы адным з самых слабых звеньняў звычайна зьяўляецца самаадукацыя, у той час, калі самаадукацыяй займаюцца ў большасьці актывістыя якія ня маюць магчымасьці наведваць школы і гурткі.

Зараз-жа неабходна заняцца ў сур'ёз паляпшаньнем работы па самаадукацыі.

Часта бывае, што таварышы недастаткова разумеюць усю важнасьць павышэньня свайго палітычнага ўзроўню ці перагружаны грамадзкай работай і кідаюць заняткі пасьля першых 1—2 заданьняў.

Тут мы можам дабіцца палепшаньня становішча тым, што завострым увагу партыйцаў на неабходнасьці набыцьця тэорэтычных ведаў і растлумачым, што бяз гэтых ведаў немагчыма добра праводзіць практычную работу. Таксама трэба пільна сачыць за тым, каб дні вучобы ніякімі пасяджэньнямі і сходамі не займаліся.

Я лічу, што дні вучобы трэба будзе захаваць і на летні час (у крайнасьці—адзін з гэтых дзён).

У справе самаадукацыі шмат залежыць і ад кіруючых органаў па самаадукацыі. Я лічу, што і работу нельга прызнаць здавальняючай.

Часта радавыя партыйцы і камсамольцы зусім ня ведаюць аб іх існаваньні, асабліва-ж у вёсцы: Трэба палепшыць інфармацыю рабоце кіруючых органаў самаадукацыі. Напрыклад, у Віцебшчыне яна зусім дрэнна зьвязана з масамі і зьяўляецца чыста апаратнымі.

Перашкаджае таксама і тое, што ў акругох няма сталых рэцэнзэнтаў, якія мелі-б магчымасьць цалкам аддавацца гэтай рабоце, у выніку мы бачым выпадкі калі заданьні складаюцца абы як, а таксама і затрымоўваюцца (я, напрыклад, атрымліваю кожнае заданьні па Гістмату з спазьненьнем дзён на пятнаццаць), што вядома адбівае ахвоту да заняткаў. Побач з гэтым маюцца факты, калі рэцэнзэнты па 2—2½ месяцы ня даюць рэцэнзіі па пратаколах і г. д.

Нельга тут закрануць усіх пытаньняў, зьвязаных з пастаноўкай справы самаадукацыі. Я лічу, што гэтае пытаньне трэба будзе абгаварыць больш падрабязна на старонках нашае часопісі, тым больш, што у зьвязку з наступленьнем лета ў нас будзе больш часу для самаадукацыі, якая ўлётку будзе мець надзвычайна важнае значэньне.

**Н. С.**

---

# Праграма палітгурткоў для сэзоньнікаў*).

## Клясы, клясавая барацьба і роль партыі.

### Што такое кляса?

Клясы дакапіталістычнага і капіталістычн. грамадзтва. Сяляне і абшарнікі. Рабочая кляса і капіталістыя—асноўныя клясы капіталістычнага грамадзтва. Клясавая барацьба на вёсцы да рэвалюцыі. Рэвалюцыйная барацьба рабочае клясы пры капіталізьме. Становішча сялянства пры капіталізьме. Клясы ў СССР. Клясавая барацьба ў СССР, яе асаблівасьці.

Кляса і партыя. УсеКП(б), як адзінае партыя рабочае клясы. Кампартыя, як частка рабочае клясы, яе авангард, які ўбірае ў сябе лепшыя, найбольш сьвядомыя рэвалюцыйныя і адданыя справе пралетарыяту элемэнты рабочае клясы, батракоў і бяднейшых сялян. УсеКП(б)—кіраўнік саюзу пралетарыяту і беднаты з асноўнымі масамі сялянства.

Зацікаўленасьць асноўнай масы сялянства ў дыктатуры пралетарыяту, супадзаньні працяглых па часу інтарэсаў рабочае клясы і асноўных мас сялянства.

### Дыктатура пралетарыяту і дыктатура буржуазіі.

Буржуазная дзяржава, як арганізацыя эксплёатацыі і прыгнечаньне рабочай клясы і шырокіх мас працоўных з боку буржуазіі і буйных абшарнікаў. Армія, суд, турмы, паліцыя, падаткі, школа і царква, як струмэнт гвалту над працоўнымі масамі і зацямненьня іх сьвядомасьці. Уласнасьць на сродкі вытворчасьці, як эканамічнае аснова панаваньня буржуазіі. Буржуазная дэмакратыя, як маска дыктатуры нязначнай меншасьці эксплёататараў над мільёнамі працоўных.

Дыктатура пралетарыяту, як арганізаванае прыдушэньне эксплёататараў ў мэтах замацаваньня перамогі рабочае клясы і пабудовы камуністычнага грамадзтва. Дыктатура пралетарыяту, як сапраўднае пралетарскае дэмакратыя для пераважнай большасьці насельніцтва. Чырвонае армія, пралетарскі суд, міліцыя, клясавыя падаткі, савецкая школа, як струмант прыдушэньня эксплёататараў і сродкі асьветы і абароны працоўных мас у мэтах пабудовы сацыялістычнага грамадзтва Нацыяналізацыя зямлі, фабрык, горных багацьцяў, банкаў у руках пралетарскае дзяржавы, як эканамічная падстава ў руках рабочае клясы. Дыктатура пралетарыяту,



*) Гутарка аб асеньняй пасеўной кампаніі будзе зьмешчана ў наступным нумары нашай часопісі.

як асобы саюз пралетарыяту з сялянствам, у якім кіраўніцтва належыць рабочае клясе, выхаванай на калектыўнай працы, пазбаўленай прыватнай уласьнасьці на сродкі вытворчасьці, спрактыкаванай у рэвалюцыйнай барацьбе і таму здольнай кіраваць барацьбой супроць капіталізму і пабудовай сацыялізму.

Адбітак кіруючай ролі пралетарыяту ў саюзе з сялянствам у канстытуцыі СССР і БССР. Батрацтва і бяднейшае сялянства, як апора Савецкае ўлады. Серадняк, як моцны саюзьнік пралетарыяту. Значэньне ўцягненьня у савецкую работу шырокіх мас працоўных. Бюрократычныя скажэньні савецкага апарату і ўдзел працоўных мас у барацьбе з імі. Перавыбары саветаў у нас, удзел у перавыбарах шырокіх мас працоўных. Перавыбарны тэрор у буржуазных краінах, апошнія выбарчыя кампаніі ў шэрагу краін.

Дыктатура пралетарыяту, як шлях да зьнішчэньня процілегласьці паміж горадам і вёскай, як шлях пагалоўнага ўцягненьня працоўных мас у кіраваньне дзяржавай, як шлях да адміраньня клясаў і дзяржавы.

**Індустрыялізацыя краіны—гэнэральная лінія партыі.**

Індустрыялізацыя краіны—пераважнае разьвіцьцё вытворчасьці сродкаў вытворчасьці. Сувязь між разьвіцьцём цяжкай і лёгкай прамысловасьці. Сувязь між разьвіцьцём прамысловасьці і разьвіцьцём сельскае гаспадаркі, асабліва між разьвіцьцём вытворчасьці сродкаў вытворчасьці для сельскай гаспадаркі і разьвіцьцём сельскае гаспадаркі.

Значэньне росту буйнай прамысловасьці для пабудовы сельскае гаспадаркі (яе машынізацыі, электрыфікацыі, хэмізацыі і г. д.).

Задачы электрафікацыі прамысловасьці і сельскае гаспадаркі. Крыніцы накапленьня для індустрыялізацыі. Цяжкасьці, зьвязаныя з капітальным будаўніцтвам, шляхі і зжываньне таварнага голаду. Таварны голад і спосабы яго зьнішчэньня. Індустрыялізацыя краіны, як спосаб дабыцьця незалежнасьці СССР ад капіталістычнай гаспадаркі і забесьпячэньне абароназдольнасьці СССР. Няправільнасьць і шкоднасьць погляду контр-рэвалюцыйнага троцкізму на індустрыалізяцыю і правага ўхілу.

**Задачы сацыялістычнай перабудовы сельскае гаспадаркі,**

Два шляхі разьвіцьця сялянскай гаспадаркі. Узаемаадносіны буйнай вытворчасьці і дробнай сялянскай гаспадаркі пры капіталізьме і дыктатуры пралетарыяту. Працэс распластаўваньня савецкай вёскі ва ўмовах НЭП'у і яго адрозьніваньне ад распластаваньня ў капіталістычных умовах. Клясавая барацьба ў вёсцы і палітыка партыі: „умець дасягнуць згоды з сярэднім сялянствам, ні на хвіліну не аслабляючы барацьбы з кулаком, і моцна апіраючыся толькі на беднату“. Барацьба з кулаком і арганізацыя беднаты.

Пераход вёскі да буйнай калектыўнай гаспадаркі, як адзіны выхад бядняцка-серадняцкіх мас сялянства з становішча распыленасьці і раздробленасьці і нізкага ўзроўню прадукцыйнасьці.

Калектывізацыя, як адзіны спосаб канчатковага выцісканьня капіталістычных элемэнтаў вёскі і поўнай сацыялістычнай перабудовы сельскае гаспадаркі. Ленінскі каапэрацыйны плян сацыялістычнай перабудовы савецкай вёскі. Выгады буйнай вытворчасьці. Розныя ступені каапэраваньня: ад аб'яднаньня ў галіне збыту да аб'яднаньня ў галіне вытворчасьці. Калгасы, як вышэйшая форма аб'яднаньня сялянскіх гаспадарак. Неабходнасьць іх росту і рашучага ўзмацненьня ў бліжэйшы час. Неабходнасьць будаўніцтва саўгасаў, як сацыялістычных форм сельскае гаспадаркі. Арганізуючы ўплыў саўгаса на акаляючае сялянскае насельніцтва: садзейнічаньне рэканструкцыі індывідуальных сялянскіх гаспадарак, дапамога сялянству і прыклад выгады грамадзкага вядзеньня гаспадаркі. Значэньне і шляхі ўзьняцьця ўраджайнасьці і пашырэньня пасеўнай плошчы,—асноўная задача ў сучасны момант.

## Прафсаюзы—школа камунізму.

Прафсаюзы, як арганізацыя абароны інтарэсаў (матар'яльных, культурных, бытавых і г. д.) рабочае клясы, як арганізацыі іх уцягненьня ў сацыялістычнае будаўніцтва, перавыхаваньне мас і падрыхтоўкі з іх сьвядомых будаўнікоў сацыялізму. Абарона інтарэсаў рабочае клясы ад бюрократычных скажэньняў.

## Прафсаюзы—школы камунізму.

Роля прафсаюзаў у пытаньнях аховы працы і барацьбы з беспрацоўем. Задачы прафсаюзаў на вёсцы. Задачы прафсаюзаў па калектывізацыі сельскае гаспадаркі. Прафсаюзы—школа камунізму „з усіх бакоў (Ленін) і прыводны рэмень паміж партыяй і пралетарыятам“. Тарыфная работа прафсаюзау: калдагавор, плянавае падвышэньне зарплаты і рэгуляваньне пытаньняў зарплаты на прадпрыемствах, суадносіны паміж ростам вытворчасьці працы і зарплаты. Пабудова прафсаюзаў па вытворчаму прынцыпу. Функцыі прафсаюзных органаў: цэхбюро, завкому, акраддзяленьня, Цэнтральнага Праўленьня, ЦК, зьезду, міжсаюзных органаў. Прафсаюзы СССР частка сусьветнага прафруху.

## Барацьба за працоўную дысцыпліну і рацыяналізацыю вытворчасьці.

Рацыяналізацыя сацыялістычная і капіталістычная. Сувязь між разьвіцьцём нашай прамысловасьці і палепшаньнем становішча рабочае клясы. Зьніжэньне сабекошту прамысловай прадукцыі—асноўны шлях узьняцьця яе прыбытковасьці, узьняцьця сельскае гаспадаркі, палепшаньня становішча рабочае клясы і працоўнага сялянства. Рацыяналізацыя вытворчасьці і адміністрацыйнага апарату—цэнтральны спосаб зьніжэньня сабекошту. Задача больш эканомнага скарыстаньня сыравіны, палепшаньня яе якасьці і зьмяншэньня вартасьці. Работа вытворчых нарад, як магутны фактар узьняцьця прадукцыйнасьці працы, прыцягненьне актыўнага ўдзелу мас у сацыялістычным будаўніцтве. Свячасовае

выкананьне дзельных прапаноў вытворчых нарад, як залог пасьпяховасьці іх працы. Барацьба на два франты—супроць нядбайных, няўважлівых адносін да інтарэсаў і запатрабаваньняў рабочых з боку часткі гаспадарнікаў, і супроць „рвачэства“ з боку рабочых. Прагулы, нядбайныя адносіны да працы і г. д.—як адбітак клясавай несьвядомасьці рабочае клясы, зьніжае вытворчасьць працы. Нашы задачы па барацьбе з прагуламі, за працоўную дысцыпліну.

**Культурная рэвалюцыя і вырашэньне нацыянальнага пытаньня.**

Культурная адсталасьць—цяжкая спадчына царскага рэжыму. Культурная адсталасьць СССР, як адна з грунтоўных прычын нашых гаспадарчых цяжкасьцяй. Нізкая вытворчасьць працы, бюракратызм, адсталасьць сельскае гаспадаркі, цяжкасьці яе калектывізацыі. Барацьба партыі за перамогу над бытавымі і ідэолёгічнымі забабонамі працоўных мас. Барацьба з рэлігійнымі плынямі, антысэмітызмам і інш. нацыянальнымі забабонамі. Інтэрнацыянальны, пралетарска клясавы характар нашай культурнай работы. Раз'ядналньне рабочае клясы і працоўных мас розных нацыянальнасьцяй, як спосаб утрыманьня ўлады ў руках пануючых кляс. Цкаваньне працоўных аднэй нацыі на другую і распальваньне нацыянальнай варожасьці, як спосаб разьяднаньня рабочае клясы і працоўных мас розных нацыянальнасьцяй. Клясавая барацьба ўнутры нацыі, разам з інтэрнацыянальнай пралетарскай салідарнасьцю—аснова марксыцка-ленінскай ідэалёгіі пралетарыяту. СССР—саюз роўнапраўных рэспублік, бацькаўшчына пралетарыяту і працоўных мас усяго сьвету. БССР—саюз пралетарыяту і працоўных мас нацыянальнасьцяй, насяляючых БССР. Беларусізацыя, як адзіны з важнейшых спосабаў уцягненьня працоўных мас вёскі ў сацыялістычнае будаўніцтве. Беларусізацыя, як спосаб узмацненьня саюзу пралетарыяту і асноўных мас сялянства. Работа на мовах нацменшасьцяй, як фактар узьняцьця культурна-палітычнага ўзроўню працоўных нацменшасьцяй, іх пралетарскага клясавага выхаваньня, павялічэньня іх удзелу ў сацыялістычным будаўніцтве. Задачы па пераводу на зямлю яўрэяў і ўцягненьне іх у прамысловасьць.

---

# Некаторыя заўвагі да праграмы.

Вышэй зьмешчаная праграма палітгурткоў для сэзонных рабочых, разьлічана на сем гутарак, па 2 гадзіны ў тыдзень кожная. Рэшта часу на працягу працы сэзоньнікаў пакідаецца для распрацоўкі пытаньняў. У аснову гэтай праграмы пакладзены праграма адзінай школы палітграматы, і праграмы якая зьмяшчаецца ў бюлетэні „У дапамогу Партвучобе“, і спэцыяльная праграма палітгурткоў для сэзоньнікаў, зьмешчаная ў часопісі „Пропогандист“ № 11 за 1928 г.

Гутарка праводзіцца ў аб'еме праграмы адзінай школы палітграматы. Для самастоўнай прапрацоўкі ўдзельнікам гуртка, рэкамэндуецца адпаведныя гутары (партыя і кляса, барацьба за культуру, індустрыялізацыя і г. д. "Азбука Ленінізму" Кержанцава і Леонцьева і газэты. Газэты трэба шырока ўжываць у самастойнай рабоце, як па правядзеньню сталых гутарак, так асабліва і пры правядзеньні бягучых пытаньняў. Праработку кожнай тэмы трэба зьвязаць з мясцовым матар'ялам і вопытам слухачоў. Пры прапрацоўцы кожнай тэмы кіраўнік павінен ведаць узровень разьвіцца і прыстасавацца да гэтага складу. Пажадана, каб ва ўсіх гурткох прапрацавалася ўся праграма: прышоўшыя з вёскі, на сэзонную работу, сяляне, прапрацоўвалі-бы пытаньне па рацыяналізацыі вытворчасьці, а гарадзкія рабочыя, занятыя на сэзоннай рабоце—азнаёміліся-бы з пытаньнямі аб пасяўной кампаніі, але характар прапрацоўкі гэтых тэм з гарадзкімі вясковым складам павінны адрозьнівацца. Як рацыяналізацыя вытворчасьці ў сэзоньнікаў з вёскі, так і асеньняя пасеўная кампанія сэзоньнікаў з рабочых гораду—дэтальна не разглядаецца, а даецца агульнае азнаямленьне з пункту погляду будучых патрабаваньняў слухачоў з гэтымі пытаньнямі. Пры прапрацоўцы гутаркі „Культурная рэвалюцыя і вырашэньне нацпытаньня" асабліва завастрыць пытаньне аб рэакцыйнай контр-рэвалюцыі, ролі рэлігійных забабон, антысэмітызму і шавінізму. Уся работа гуртка павінна праводзіцца з пункту погляду апошніх пастаноў Пленумаў ЦК УсеКП(б) і КП(б)Б, таксама і XII зьезду КП(б)Б.

---

# Праграма

## для навічкоў камсамольцаў на вёсцы

### I. Сутнасьць і задачы КСМ.

Камсамол масавая палітычная арганізацыя працоўнай моладзі. КСМ памоцнік і рэзэрв партыі. Камуністычнае выхаваньне моладзі —асноўная задача КСМ. КСМ выхоўвае моладзіць, прыцягваючы яе да практычнага ўдзелу ў сацыялістычным будаўніцтве. Сацыялізм--пазаклясавае грамадства, адсутнасьць дзяржавы, высокая тэхніка народнай гаспадаркі, плянавасьць у гаспадарцы, разьмеркаваньне прадуктаў адпаведна долі працы. КСМ па складу—рабоча-сялянская арганізацыя, па тых мэтах, якія перад сабой ставіць пралетарская. Батрацтва і бедната аснова камсамольскай арганізацыі ў вёсцы. Задача рэгуляваньня росту камсамолу і чысткі яго шэрагаў. Адзінства і пралетарскае кіраўніцтва ў КСМ. Узаемаадносіны паміж КСМ і партыяй. Кулак супроць сацыялістычнага будаўніцтва. КСМ вядзе барацьбу з кулацтвам.

Кантрольныя пытаньні

1. Што азначае КСМ?
2. Хто можа быць сябрам КСМ?
3. Чаму пралетарская моладзь зьяўляецца кіруючай?
4. Хто кіруе камсамолам?
5. Што такое сацыялізм?
6. Чаму кулацтва вядзе барацьбу з сацыялістычным будаўніцтвам?
7. На што патрэбна чыстка камсамолу і рэгуляваньне яго росту?

Слухачам прачытаць

З праграмай КСМ апошні разьдз. § 29-32, з статуту КСМ ад § 1 да 9 і 51.

Мэтадычныя заўвагі

Тэма павінна будавацць на растлумачэньні назвы „Ленінскі Камуністычны Саюз Моладзі". Кіраўніку прачытаць з падручніка палітчытак і гутарку і частку XI і XII, рэзалюцыю 3-га пленуму ЦК ЛКСМБ аб праверцы сацыяльнага складу арганізацыі і задачы росту.

## 2. Прынцыпы пабудовы КСМ

Дэмакратычны цэнтралізм і яго сутнасьць. Схэма пабудовы КСМ ад ячэйкі да ЦК.

Кантрольныя пытаньні

1. Што такое дэмакратычны цэнтралізм?
2. Прыклады парушэньня статуту КСМ у вашай ячэйцы.

Прачытаць слухачам

З статуту § 15-19.

Мэтадычныя заўвагі

Тэма павінна азнаёміць слухачаў з асноўнымі палажэньнямі статуту КСМ. Пажадана скласьці для слухачоў схэму пабудаваньня арганізацыі ад ячэйкі да ЦК на паперы альбо дошцы. Указаць іх узаемаадносіны ўгрунтаваныя на прынцыпу дэмакратычнага цэнтралізму. Чытаць—статут КСМ канец XI гутаркі палітчытак.

## 3. Горад і вёска

Эканамічная сувязь паміж горадам і вёскай. Кіруючая роля прамысловасьці, неабходнасьць індустрыялізацыі краіны. Немагчымасьць разьвіцьця сельскае гаспадаркі без індустрыялізацыі. Неабходнасьць хуткага разьвіцьця сельскае гаспадаркі для магчымасьці індустрыялізацыі. Спрэчкі па пытаньню аб тэмпе індустрыалізацыі. Правы ўхіл у пытаньні аб індустрыалізацыі. Капітальнае будаўніцтва. Разгортваньне будаўніцтва цяжкой прамысловасьці (вытворчасьць сродкаў вытворчасьці). Цяжкасьці ў ка-

пітальным будаўніцтве. Крыніцы індустрыалізацыі—накапленьне ў самой прамысловасьці, дзяржаўны бюджэт і неабходнасьць уцягненьня сродкаў насельніцтва для мэт індустрыалізацыі праз касу ашчэднасьці і пазыкі. Задача КСМ у гэтай справе.

Кантрольныя пытаньні

1. Чаму прамысловасьць зьяўляецца кіруючай у народнай гаспадарцы?

2. У чым залежыць разьвіцьцё індустрыалізацыі ад сельскае гаспадаркі і разьвіцьцё сельскае гаспадаркі ад буйнае прамысловасьці?

3. Чым тлумачыцца недахоп прадуктаў прамысловасьці?

4. Што гавораць „правыя ўхілістыя“ аб тэмпе індустрыалізацыі?

5. Што зроблена вашай ячэйкай для ўцягненьня сродкаў насельніцтва ў касы ашчаднасьці і для распаўсюджваньня пазык.

Прачытаць слухачом.

V. Гутарку палітчытак.

Мэтад-заўвагі.

Мэта гутаркі выявіць неабходнасьць індустрыялізацыі краіны, сутнасьця гаспадарчых цяжкасьцяй і правай небясьпекі. Прачытаць—з прамовы тав. Гамарніка на XII зьездзе разьдз аб унутры-партыйным будаўніцтве прамову Сталіна на пленуме МК і МКК аб правай небясьпецы.

### 4. Сацыялістычная перабудова вёскі.

Нізкі ўзровень сельскае гаспадаркі .— спадчына мінулага Прычына адсталасьці сельскае гаспадаркі. Невыстарчальны рост валавой прадукцыі сельскай гаспадаркі, асабліва яе таварнай часткі. Клясавае расслаеньне вёскі. Неабходнасьць узбуйненьня сельскай гаспадаркі. Два шляхі разьвіцьця вёскі. Капіталістычны шлях разьвіцьцё кулацкай індывідуальнай гаспадаркі. Сацыялістычны шлях разьвіцьця—аграмаджаньне сельскае гаспадаркі, вытварчае каапэраваньне сялянства і яе калектывізацыі,—шлях вёскі да сацыялізму. Абвастрэньне клясавай барацьбы на вёсцы. Правыя ўхілістыя аб клясавай барацьбе на вёсцы і грамаджаньне сельскае гаспадаркі. Дзяржаўная прамысловасьць вядзе ўсю гаспадарку, у тым ліку і сельскую, па сацыялістычным шляху. Стымулеваньне росту індывідуальнай бядняцка-серадняцкай гаспадаркі. Новы закон аб падатку. Мерапрыемствы ўраду па ўзьняццьцю ўраджайнасьці. Задачы КСМ у справе калектывізацыі вёскі, у справе ўзьняцьця ўраджайнасьці ў справе паляпшэньня ўсяе гаспадаркі.

Кантрольныя пытаньні.

1. Якія прычыны адсталасьці сельскае гаспадаркі?
2. Што зроблена вашай ячэйкай для ўзьняцьця ўраджайнасьці?
3. Удзел вашай ячэйкі ў справе калектывізацыі?
4. У чым выяўляецца клясавая барацьба ў Вашай вёсцы?

5. Чым шкодны капіталістычны шлях разьвіцьця вёскі?

6. У чым сутнасьць правага ўхілу ў пытаньнях разьвіцьця сельскае гаспадаркі?

Прачытаць слухачом.

ІІ-ю гутарку і частку V-ю па палітчытках

Мэтад-заўвагі.

Тэму пабудаваць на мясцовым матар'яле. Асноўная задача прапрацоўка і прывядзеньне ў жыцьце пастановы акруговай камсамольскай канфэрэнцыі па пытаньнях перабудовы вёскі.

### 5. Інтэрнацыянальнае выхаваньне моладзі.

СССР вольнае аб'яднаньне працоўных розных нацыянальных рэспублік. Савецкая ўлада дапамагае адсталым нацыянальнасьцям у іх гаспадарчым і культурным будаўніцтве. Буржуазія прыгнечвае працоўныя масы, асабліва дробных нацыянальнасьцяй. Антысэмітызм і шавінізм спадчына мінулага. Неабходнасьць барацьбы з антысэмітызмам і шавінізмам як праяўленьнем клясавай барацьбы. Беларусізацыя, як умова паляпшэньня абслугоўваньня працоўных мас, асабліва вёскі. Абслугоўваньне нацменшысьцяй на іх роднай мове. Земляўпарадкаваньне працоўных яўрэяў Правільна вырашыць нацыянальнае пытаньне можа толькі камуністычная партыя. СССР база сусьветнага пралетарскга руху. Працоўныя СССР дапамагаюць сусьветнаму пралетарыяту ў яго барацьбе. КІМ міжнароднае аб'яднаньне камуністычных саюзаў моладзі і пад кіраўніцтвам Камінтэрну КІМ вядзе барацьбу за дыктатуру пралетарыяту супроць небясьпекі новае імпэрыялістычнае вайны, за абарону СССР. Братэрская салідарнасьць аснова інтэрнацыянальнага выхаваньня ў КСМ.

Кантрольныя пытаньні.

1. Чаму буржуазія прыгнечвае дробныя нацыянальнасьці?

2. На сучасных прыкладах дакажэце шкоднасьць антысэмітызму і шавінізму?

3. Што такое КІМ?

4. Чым дапамагае нам міжнародны пралетарыят?

5. Чым пралетарыят СССР дапамагае працоўным капіталістычных краін у іх барацьбе з капіталістымі?

Прачытаць кіраўнікам.

Рэзалюцыя ЦК КП(б)Б па пытаньню аб справе на заводзе „Акцябр“, артыкул тав. Гамарніка аб „Кастрычнік“—„Ноўкі“—„Добруш“.

Мэтад-заўвагі.

Мэтай гутаркі зьяўляюцца: даказаць шкоднасьць нацыянальнай розьні, антысэмітызму і шавінізму, неабходнасьць інтэрнацыянальнага выхаваньня.

---

# У дапамогу агітатару

## Задачы растлумачальнае працы па с.-г. падатку.

(Матар'ялы для агітатараў).

Сельска-гаспадарчы падатак заўсёды быў адным з важнейшых рычагоў нашага ўплыву на сельскую гаспадарку. Цяпер роля яго павялічваецца яшчэ больш. Перад намі стаіць задача „падцягнуць сельскую гаспадарку наогул, збожжавую гаспадарку ў прыватнасьці вытворчасьць харчовага збожжа ў асаблівасьці“ (рэзал. лістападаўскага пленуму ЦК УсеКП(б). У БССР мы павінны звыш таго дабівацца больш шырокага разьвіцьця тэхнічных сельска-гаспадарчых культур і жывёлагадоўлі. Адным з спосабаў вырашэньня гэтых задач зьяўляецца павялічэньне гаспадарчае зацікаўленасьці беднаты і серадняка. З другога боку „абавязковай умовай посьпехаў партыі ў вёсцы зьяўляецца строгае захаваньне клясавай лініі ва ўсіх галінах працы“. Новы закон пра сельгаспадатак пабудован так, каб дапамагчы выкананьню ўсіх гэтых задач. Прагрэсыўна-падаходная сутнасьць с.-г. падатку застаецца нязьменнай; захоўваецца поўнае вызваленьне 35% бяднейшых гаспадарак і індывідуальнае абкладаньне найбольш багатых кулакоў; абкладаньне серадняцтва палягчаецца; разам з тым даюцца вялікія ільготы і скідкі працоўным бядняцка-серадняцкім гаспадаркам за пашырэньне пасеўнае плошчы, за ўздым ураджаю, за палепшаньне жывёлагадоўлі і сельскае гаспадаркі наогул і за калектывізацыю.

Мы павінны ў бліжэйшы час як мага шырэй і дакладней азнаёміць сялянства з гэтым характарам новага закону пра с.-г. падатак. Закон наўмысьля выдадзен задоўга да пачатку пасеўнае кампаніі, каб ужо цяпер, у гэтую вясну даць працоўнаму сялянству новыя ільготы і атрымаць з іх беспасрэдную карысьць. Але гэта будзе толькі тады, калі вёска добра і загадзя зразумее ўсе выгады і перавагі па с.-г. падатку, якія даюцца стараннаму працоўнаму сялянству.

Як правадзіць агітацыю па с.-г. падатку і растлумачваць новы закон?

Зьмены с.-г. падатку проста вынікаюць з гаспадарчых і палітычных задач партыі прыстасаваньні да ім вырашэньня. Таму агітацыю і тлумачэньне новага с.-г. падатку ў кожным выпадку неабходна зьвязваць з агульнай устаноўкай нашае працы ў вёсцы, як яна паказана ў рэзалюцыі лістападаўскага пленуму ЦК Усе КП(б) пра кантрольныя лічбы народнае гаспадаркі. Агітатар павінен спыняцца на вузлавых пунктах гэтае рэзалюцыі, зьвязаных з пытаньнямі палітыкі ў вёсцы і паказваць, як кожны з гэтых пунктаў адбіваецца ў новым с.-г. падатку.

Лістападаўскі пленум ЦК Усе КП(б) адзначыў, што ў сельскай гаспадарцы мы маем значныя посьпехі і што пачалася рэканструкцыя яе. Агітатар павінен пацьвердзіць гэты тэзіс кароткім лічбавым матар'ялам як па СССР так і па БССР. У нас з 1916 г. пасеўная плошча вырасла на 40%, а па тэхнічных культурах—на 43%. Колькасьць жывёлы за той самы час павялічылася амаль на 50%. У шматпольным севазвароце знаходзіцца ўжо звыш 1/2 міл. дзесяцін. За апошні год колькасьць калгасаў БССР павялічылася больш як удвойчы і цяпер у нас ёсьць звыш 900 с.-г. калектываў. За апошнія два гады беларуская вёска набыла звыш 50 тыс. розных с.-г. машын. Адпаведныя лічбы па Саюзу ССР дакладчык знойдзе ў рэзалюцыі пленуму. Зразумела, ня трэба злоўжываць лічбамі, маючы на ўвазе склад слухачоў.

Пленум ЦК Усе КП(б), побач з гэтымі дасягненьнямі ў сельскай гаспадарцы, адзначыў і некаторыя няспрыяючыя моманты. Галоўны з іх—невыстарчальна-шпаркае разьвіцьцё збожжавых культур; гэта выклікае цяжкасьці і перабоі ў забясьпечаньні хлебам працоўнага насельніцтва, пагражае ўзятаму тэмпу разьвіцьця буйнае прамысловасьці, спыняе вываз збожжа за-межы. Гаворачы аб гэтым, агітатар павінен падкрэсьліць, што разьвіцьце сельскае гаспадаркі і буйнае дзяржаўнае прамысловасьці цесна зьвязаны адно з другім: перашкоды ў сельскай гаспадарцы адбіваюцца на разьвіцьці буйнае прамысловасьці і, наадварот, маруднае разьвіцьцё буйнае прамысловасьці шкодзіць сельскай гаспадарцы; таму-ж нам патрэбна вывазіць збожжа за межы, каб атрымоўваць машыны, неабходныя для сельскай гаспадаркі і прамысловасьці Апроч таго неабходна падкрэсьліць, што з палітычнага боку няўвязка паміж разьвіцьцём сельскае гаспадаркі і прамысловасьці азначала-б пагрозу саюзу рабочае клясы з асноўнымі масамі сялянства.

Трэці важны момант—абвастрэньне клясавае барацьбы ў вёсцы (як і у горадзе). Агітатару неабходна паказваць, што гэты факт ёсьць вынік посьпехау сацыялістычнага будаўніцтва і спробы кулацтва і буржуазіі супраціўляюцца нашаму наступленьню на іх. Таму „апора на беднату, трывалы саюз з серадняком і далейшае наступленьне на кулака ёсьць нязьменная аснова палітыкі партыі ў вёсцы“.

Выходзячы з гэткага кароткага агляду нашае працы ў вёсцы, дакладчык павінен паказаць галоўныя задачы палітыкі партыі

ў вёсцы і высьвятліць, як новы с.-г. падатак дапамагае вырашэньню гэтых задач. На гэтым больш за ўсё і трэба спыняцца. Дакладчык павінен сам добра вывучыць новы закон пра с.-г. падатак, каб яго тлумачэньні мелі практычны характар і былі прыстасаваны да мясцовых умоў данага раёну і вёскі.

Лістападаўскі пленум ЦК Усе КП(б) паказаў на неабходнасьць падцягнуць сельскую гаспадарку наогул, павялічваючы гаспадарчую зацікаўленасьць бядняцкіх і серадняцкіх гаспадарак. Асабліва важна паскорыць разьвіцьцё збожжавых культур, рост якіх адстае ад росту патрэб харчаваньня і прамысловасьці; напрыклад. па БССР плошча пасеву жыта, пшаніцы, аўсу і ячменю павялічыліся з 1916 г. толькі на 25%, а ўраджай жыта—толькі на 6%. Перад намі стаіць задача пашырыць пасеўную плошчу ўжо сёлета на 6-7 міл. дзес. і павялічыць ураджай найменш на 3%, Па БССР, у зьвязку з асаблівым адставаньнем яе збожжавае гаспадаркі, неабходна павялічыць ураджай на 7%, пасеўную плошчу—на 3%. Новы закон пра с.-г. падатак улічвае гэтую задачу і дае вялікія ільготы за пашырэньне пасеву. Па ўсяму Саюзу ССР вызваляецца ад абкладаньня на 2 гады распаханыя плошчы залежы і цаліны. Для многіх гаспадарак гэта азначае, што за распашку 2-3 дзес. залежы падатак памяншыцца ўдвойчы і нават утройчы, хоць даход павялічваецца. Дакладчык павінен на прыкладах паказаць вялікі разьмер і лёгкасьць атрыманьня гэтых ільгот, асабліва там, дзе шмат залежнае зямлі.

У некаторых раёнах БССР (напрыклад у Мазырскай акрузе) прыбытак ад ральніцтва абкладаецца па плошчы пасеваў. Для такіх раёнаў даецца асобная ільгота і на ёй таксама трэба заваstраць увагу. У такіх раёнах вызваляецца з абкладаньня на 2 гады увесь прырост пасеўнае плошчы з 1928-29 г. Значыцца, хоць-б гаспадар засеваў у 1929-30 г. 6 дзес., а 1930-31 г.—8 дзес., ён будзе плаціць толькі з 5 дзесяцін, калі такая плошча была ў яго падлічана летась. Фактычна гэта азначае захаваньне с.-г. падатку пры павялічэньні даходу. Больш таго: у пасеўных раёнах даецца 15% скідкі з норм даходнасьці пасеву тым гаспадаркам, якія перашлі на шматпольны севазварот. Агітатар павінен паказаць разьмер гэтае ільготы на жывых прыкладах і растлумачваць яе з пункту погляду неабходнасьці зьнішчыць трохполку, перайсьці на інтэнсыўны севазварот.

Падвышэньне ўраджаю—другая частка агульнае задачы ўздыму сельскае гаспадаркі. У сьнежні 1928 г. Урад Саюзу ССР зазначыў, што павялічыць ураджай можна хутка зусім простымі спосабамі. Напрыклад зьнішчыўшы межы селянін адразу памяншае колькасьць пустазельля, павялічвае збор з дзесяціны. У новым законе пра с.-г. падатак пералічана шмат такіх агратэхнічных, зусім простых палепшаньняў. Для правядзеньня іх патрэба амаль нічога, апроч ахвоты і ўласнае працы, а ўраджай і прыбытак гаспадаркі значна павялічваюцца. Даволі ўсёй вёскай правесьці хоць-бы адно з гэтых палепшаньняў і кожнаму гаспадару

даецца зьніжка 10% падатку. Калі-ж гэта правядуць толькі паасобныя гаспадаркі—скідаецца 5% падатку. Асаблівасьць гэтае ільготы—у надзвычайнай лёгкасьці атрыманьне яе і ў надзвычайнай гаспадарчай карысьці тых паляпшаньняў, за якія даецца скідка. Агітатар павінен добра вывучыць пералік аграпалепшаньняў, за якія даецца скідка ў данай акрузе (бо акрвыканкомы вызначылі дастатковыя палепшаньні, звыш паказаных у законе). У кожнай мясцовасьці, растлумачваючы гэтую ільготу агітатар павінен асабліва спыняцца на тых палепшаньнях, якія мажліва правесьці тут, і на прыкладах паказаць, як лёгка атрымаць гэтую ільготу і якая карысьць будзе ад гэтага палепшаньня. У кожным разе трэба падкрэсьліваць выгады грамадзкага правядзеньня аграпалепшаньняў, бо тады і разьмер ільготы павялічваецца ўдвойчы (10% зьніжкі).

Закон пазбаўляе пералічаных ільгот толькі калацкія гаспадаркі. Таму трэба чакаць актыўных выпадкаў кулацтва супроць гэтых ільгот. Агітатар павінен быць падрыхтован да гэтага і высьвятліць працоўнаму сялянству сапраўдны характар гэткіх выпадаў.

Апроч паказаных вышэй задач, у БССР ёсьць усе магчымасьці і неабходна больш шпарка разьвіваць малочную гаспадарку, павялічваць удой нашае каровы. Шлях да гэтага—малочная каапэрацыя, якая аказвае арганізацыйны і культурны ўплыў на паасобных уласьнікаў малочнае жывёлы. З гэтага пункту погляду агітатар і павінен растлумачваць дадатковую ільготу, устаноўленую ў БССР. Урад БССР зьменшыў на палову леташнія нормы зыскоўнасьці буйнае рагатае жывёлы для тых гаспадарак, якія аб'яднаны ў малочныя арцелі і саюзы.

Гэтая ільгота устаноўлена на 3 гады (да 1931-32 г. уключна) і для ўласьніка 2-3 кароў, запісаных у малочную арцель, падатак можа зьменшыцца на 20-30 і больш процантаў. Паказаўшы на прыкладах разьмер ільготы, агітатар павінен растлумачыць, што заможнік і кулак будуць дабівацца арганізацыі фальшывых арцеляй, каб атрымаць ільготу; таму бедната і серадннякі павінны ўзяць справу арганізацыі малочных арцеляй і саюзаў у свае рукі. Неабходна адзначыць, што ільгота даецца членам арцеляй і саюзаў, зарэгістраваных да 1 мая акладнога году. Такім чынам ільготу можна атрымаць ужо цяпер, калі сваечасова арганізавацца.

Пленум ЦК Усе КП(б) падкрэсьліваў што для ўздыму і сацыялістычнае перабудовы сельскае гаспадаркі неабходна ўсімі спосабамі палягчыць каляктывізацыю яе. Выходзячы з гэтага агітатар павінен высьвятліць ільготы па с. г. падатку, устаноўленыя для сельгаспадарчых камун, арцеляй і таварыстваў. Зноў утвораных камуны і арцелі зусім вызваляюцца ад абкладаньня на тэрмін ад 2 да 6 год, у залежнасьці ад якасьці атрыманае зямлі. Іншым камунам скідаецца ад 30 да 60 проц. налічнага с.-г. падатку, а арцелям—ад 25 да 40 проц. Таварыствам па супольнай

апрацоўцы зямлі выключаецца з абкладаньня 20 проц. тэй часткі іх даходу, якая падзяляецца паміж членаў таварыства, Даход машыновых таварystваў ад здачы ўнаймы сельска-гаспадарчых машын зусім не абкладаецца с.-г. падаткам, калі ня падзяляецца паміж членаў таварыства. Агітатар павінен дасканала вывучыць гэтыя ільготы і падрабязна растлумачыць сялянству іх сэнс і разьмеры.

Рэканструкцыя сельскае гаспадаркі патрабуе шырокага ужываньня сельска гаспадарчых машын. Гэта адзначалася пленумам ЦК Усе КП(б). Каб палегчыць машынізацыю сельскае гаспадаркі, новы закон пра с.-г. падатак зусім вызваляе ад абкладаньня даходы ад нескладаных машын трыераў інш. З даходаў ад іншых складаных с.-г. машын запісваецца у абкладаемы даход 25 проц., а калі машына працуе з мэханічным рухавіком—дык 50 проц. Агітатар павінен падкрэсьліваць, што летась увесь даход ад усіх с-г. машын абкладаўся цалкам і таму тут даецца значная палёгка.

Урэшце, неабходна адзначаць, што захоўваецца леташняя ільгота пасевам сеяных траў на насеньне (поўнае вызваленьне ад падатку), пасевам лёну (палавінная скідка з норм даходнасьці) і інш. Ільготы: гатунковай жывёлы, грамадзкім пасевам, перасаленцам, чырвонаармейцам, пацярпеўшым ад навальніц і інш. Усе гэтыя ільготы разам з нанова-устаноўленымі ўтвараюць суцэльную сыстэму зьніжак для стараннага працоўнага селяніна, гаспадарчая дзейнасьць якога супадае з агульным напрамкам нашае эканамічнае палітыкі. Дырэктыва ЦК Усе КП(б) пра „усемернае ўзмацненьне гаспадарчых стымулаў бедняцкіх і серадняцкіх гаспадарак“ выконваецца ў новым законе пра с.-г. падатак.

Пленум ЦК Усе КП(б) надаў асаблівую ўвагу пытаньню ўстойлівасьці с.-г. падатку і проста паказаў, што „бяз упарадкаваньня і строгага правядзеньня загадзя вядомых насельніцтву норм ня можа быць ўпэўнасьці ў вядзеньні гаспадаркі і гаспадарчага разьліку, індывідуальнага пляну, г-зн. ня можа быць росту вытворчых сіл сялянскае гаспадаркі“. Гэтыя дырэктыва адбіваецца ў новым законе пра с.-г. падатак наступным чынам: стаўкі с.-г. падатку ўстаноўленыя ў 1928-29 г. і нормы зыскоўнасьці зямлі і жывёлы, устаноўленыя сёлета, ня будуць падвышацца найменш 3 гады. Нормы даходнасьці іншых галін сельскае гаспадаркі ня будуць падвышацца на працягу ўсяго 1929-30 г. Для пераважнае большасьці гаспадарак гэта азначае ня менш як 3-х гадовую ўстойлівасьць паніжанага ападаткаваньня с.-г. падаткі і магчымасьць загадзя будаваць рэальны гаспадарчы плян. Агітатар павінен асабліва падкрэсліваць значэньне гэтага пункту новага закону для справы разьвіцьця сельскае гаспадаркі.

Паказаныя вышэй ільготы прызначаны і павінны пайсьці беднаце і серадняцтву, у зьвязку з чым абкладаньне іх моцна паніжаецца. Апроч таго новы закон пра с.-г. падатак захоўвае ўсе леташнія ільготы беднаце і палягчае абкладаньне серадняцтва. Як і летась, сёлета будзе вызвалена ад с.-г. падатку 35% бяд-

нейшых гаспадарак. Але паляпшаецца тэхніка і (у зьвязку з гэтым) якасьць, вызваленьня. Неабкладаемы мінімум даходаў павялічан так, што абхопіць і адразу вызваліць 23-25% усіх гаспадарак, замест леташніх 9%. Сёлета адразу вызваляюцца гаспадаркі, даход якіх складае: пры 1-2 едаках—да 130 руб., пры 3 і 4 едаках да 150 р., пры 5 і больш едаках-да 175 руб. А летась адпаведныя лічбы былі: 100-120 і 130 руб. Такім чынам, да дадатковага вызваленьня сёлета застанецца толькі 10-12% двароў (замест леташніх 26%) і гэта дазволіць больш правільна і поўна вызваліць беднату. Гэты бок справы неабходна адзначаць пры растлумачэньні новага закону.

Палягчэньне серадняцкае гаспадаркі адбываецца наступным чынам: 1) зьменшаецца абкладаньне неземляробчых саматужнарамесьніцкіх і іншых працоўных заработкаў; 2) леташнія процантовыя набаўкі да даходу, падлічанага па нормах, зусім скасоўваюцца для гаспадарак з прыбыткам да 400 руб.; 3) урэшце, гаспадаркам і вялікім лікам ядакоў даюцца спэцыяльныя зьніжкі з падатку.

З саматужных, рамесьніцкіх і іншых працоўных заработкаў летась у БССР зьпісвалася ў абкладаемы даход ад 35 да 80 і да 90%, падлічанае сумы. Сёлета будзе запісвацца 35%, а калі ёсьць наёмныя рабочыя дык 50%. Галоўная частка саматужнікаў і рамесьнікаў—серадлякі і ня маюць наемных рабочых: таму для іх устаноўленыя сёлета паніжаныя %% абкладаньня заработкаў азначаюць вялікую палёгку і дакладчык-агітатар павінен паказаць гэта на жывых прыкладах з данае вёскі.

Летась да даходу гаспадаркі, падлічанага па нормах, рабіліся процантовыя набаўкі (ад 5 да 25%), калі гэты даход складаў больш 400 руб. Новы закон захоўвае процантовыя набаўкі бо яны дазваляюць больш правільна падлічыць сапраўдную даходнасьць гаспадаркі. Але набаўкі скасоўваюцца для гаспадарак серадняцкіх і з многім лікам ядакоў з сярэднім даходам на ядака. Набаўкі ня будуць прыстасоўвацца, калі прыбытак складае: 500 руб. на гаспадарку, або 60 руб. на ядака пры 9 і 10 ядаках, 65 руб. на ядака пры 11 і 12 ядаках і 70 руб. на гаспадаркам якія ня маюць ядака пры 13 і больш ядаках у гаспадарцы. Апроч таго набаўкі ня робяцца цягавае сілы (каня, валоў) і інвэнтару і наймаюць іх. Урэшце, гранічны разьмер надбавак зьмяньшаецца да 10% замест леташніх 25%. Усе гэтыя абмежаваньні палягчаюць абкладаньне серадняцкае і гаспадаркі у вялікім лікам ядакоў і агітатар павінен паказваць гэта на прыкладах. Звыш таго гаспадаркам з вялікім ліхам ядакоў скідаецца з налічнага падатку 5 проц. пры 7 і 8 ядаках, 10 проц. пры 9 і 10 ядаках і 15 проц. пры 11 і больш ядаках. У гэтую льготу трэба растлумачваць на прыкладах.

У сувязі з задачай рэвалюцыйнае законнасьці стаіць пытаньне правільнага індывідуальнага абкладаньня непрацоўна эксплёататарскіх гаспадарак. Лістападаўскі пленум ЦК Усе КП(б) пака-

заў, што гэткі парадак абкладаньня трэба ў жываць да багацейшых кулакоў і ня больш як да 3 проц. усіх гаспадарках. Агітатар павінен падкрэсьлізаць, што індывідуальнае абкладаньне зьяўляецца адным з лепшых спосабаў наступленьня на кулака. Але, каб не дапусьціць гэткага абкладаньня серадняцкіх гаспадарак, новы закон дакладна пералічае адзнакі кулакоў. Сюды ўваходзяць: 1) скупка з мэтай перапродажу, гандаль і квотніцтва, 2) сыстэматычнае карыстаньне наёмнай рабочай сілай, 3) наліччa прамысловых прадпрыёмстваў з наёмнай працай, або з мэханічнымі рухавікамі, 4) здача ў наём пастаянны ці на сэзон спэцыяльных, абсталяваных жыльлёвых або гандлёва-прамысловых памяшканьняў. Акрвыканкомам дазволена дадаткова вызначыць іншыя мясцовыя адзнакі гэткіх кулацкіх гаспадарак і канчатковы пералік іх (адзнак) павінен быць загадзя апублікаваны. Агітатар павінен добра вывучыць гэты пералік і ў сваёй растлумачальнай працы заўсёды падкрэсьліваць, што гаспадаркі, у якіх няма гэытх адзнак ні ў якім выпадку не абкладаюцца індывідуальна.

У заключэньне агітатар павінен спыніцца на арганізацыйных задачах кампаніі па с.-г. падатку. Пры правядзеньні яго мы усрэнемся з актыўным сапраціўленьнем кулацтва. Да гэтага трэба падрыхтаваць беднату і серадняка. Адбор „індывідуальнікоў“, разьмеркаваньне і льгот і зьніжак, падлік аб'ектаў абкладаньня, павінны праходзіць пад кантралем беднаты з дапамогай серадняцтва Выбары ў сельскія падлічальныя камісіі прадстаўнікоў насельніцтва павінны даць рашучую перавагу беднаце і серадняку. Гэта неабходна для поўнага эфэкту усіх зьмен сельгаспадатку і для правільнага разьмеркаваньня яго. Агітатар павінен падкрэсьліць, што справа селетняга сельгаспадатку больш як калі-небудзь ёсьць справа самае вясковае грамадзкасьці.

---

Проф. Н. НІКОЛЬСКІ.

# Яўрэйскі і хрысьціянскі вялікадзень (Пасха).

Блізкае па часу сьвяткаваньне і аднолькавыя па назве гэтыя сьвяты маюць зусім рознае паходжаньне і адрозьніваюцца адно ад другога па свайму характару. Гісторыя яўрэйскага вялікадня або інача́й пасхі, больш вялікая і сьведчыць аб вялікіх зьменах, якім падпадала гэтае сьвята ў сувязі з умовамі жыцьця яўрэйства і тэндэнцыямі, якія час ад часу зьмяніліся, у яго кіраўнікоў. Вялікадзень („пасха“ „песах“) узьнік яшчэ ў эпоху вандраваньня, але бяз усякай сувязі з легендарным выхадам з Эгіпту. Знаходжаньне яўрэяў у Эгіпце і выхад адтуль найбольш

аўторытэтнымі вучонымі ня лічыцца верагодным гістарычным фактам; наадварот, хутчэй за ўсё біблейскія расказы аб гэтым зьяўляюцца рэлігійным домыслам Іерусалімскіх жрэцоў VII в. да нашай эры, створаным у якасьці агітацыйнага матар'ялу ў барацьбе за адзінства народу Іогве і за цэнтралізацыю яго ў Іерусаліме. Тады-жа быў рэўстаўраваны (адноўлены) і ўведзен у афіцыяльны культ і вялікадзень (пасха), які як сьведчыць кніга царэй ня прызнаваўся ў працягу ўсяе царскае эпохі.*) У час свайго ўзьнікненьня вялікадзень быў вясеньнім рэлігійным абрадам, мэта якога была абараніць людзей і скаціну ад злых духаў, якія прынасілі хваробы, пошасьці і сьмерць. Асноўны момант абраду заключаўся ў памазаньні кроўю вялікоднага ягняці касякоў уваходаў; як тлумачыць значэньне гэтага абраду старажытнае, якое захаваўся ў бібліі, правіла аб вялікадню: кроў на ўваходах не дапускае духа-пагубніка (машхот) вайсьці ў дом (ісх. XII, 23); так тлумачылі і ў пасьляпалонную эпоху не задоўга перад нашай эрай: вялікадзень (пасха), зусім строга па чыну, на ўвесь год захавае ад усякай бяды, хвароб і сьмерці (кн. юбілеяў 49, 15). Мажліва ў самую старажытную эпоху рабілі, так як і зараз яшчэ робяць па час пошасьцяй, эпізотый і засухі некаторыя арабскія племеньні, якія забіваюць авечку, разразаюць яе на дзьве паловы і вешаюць перад уваходам у палатку на двух слупох; уся сям'я праходзіць паміж крывавых частак афяры, якой прыпісваецца ўласьцівасьць адганяць фіінка (злога духа). Калі раней і яўрэі вешалі часткі вялікоднага ягняці на слупох каля ўваходу ў палатку і праходзілі паміж імі, то лёгка тлумачыцца і назва **пэсах** ад дзеяслову pasach, праходзіць міма. Ягня зьядалі на афярадайным піру; відавочна, што мясу яго прыдавалася захаваўчае значэньне. З пераходам да аселасьці і заняцьця ральніцтвам вялікадзень (пасха) павінен быў адступіць на другі плян перад земляробскімі сьвятамі; і нічога дзіўнага няма, што ён (вялікадзень) зусім не ўпамінаецца ў старажытным сьпіску сьвятаў эпохі аселасьці (Ісх. 23, 16). Калі жрэцы Іерусалімскага храму ў канцы VII ст. рэстаўравалі яго, яны адначасова скарысталі і складзеную імі легенду аб паходжаньні вялікдзеня: зьвязалі з „ісходам„ і зрабілі галоўным дзейнічаючым пэрсонажам бога Іогве, які быццам у ноч „ісходу" зьнішчыў эгіпецкіх первянцоў але не крануў яўрэйскіх дамоў, адзначаных кроўю, і тым пазбавіў яўрэяў ад эгіпецкай няволі. Легенда грубая, тэндэнцыйная і вельмі няўдалая; але дзеля таго што аб сапраўдным паходжаньні вялікдзеня (пасхі) ні захавалася ніякіх успамінаў, то ён прывіўся, у асаблівасьці ў пасьляпалонную эпоху, калі іудзействе страціла сваю палітычную самастойнасьць і жыло пад чужаземнаю ўладаю. У I ст. нашай эры, калі да цяжару рымскай эксплёатацыі далучыўся яшчэ глыбокі сацыяльны крызіс, народная іудзей-

*) Гл. падрабязна ў маёй кнізе „Еврейские праздники и происхождение христианского культа", разьдз. II і IV.

ская маса стагнала, ня бачучы нідзе выйсьця і, жрэцы і равіны, змагаючыся з узьнікненьнем рэвалюцыйных плянаў асабліва заахвочвалі мэсіянізм, г. зн. чаканьне мэсіі іудзейскага цара-збавіцеля, які будзе пасланы богам, каб пазбавіць іудзеяў ад няволі, зьнішчыць яго ворагоў і даць іудзейству першае месца пад сонцам. З гэтым нацыяналістычным мэсіянізмам спрабавалі зьвязаць і вялікадзень: былі складзены тыя формулы і малітвы, якія з тых часоў з некаторымі зьменамі і дапаўненьнямі чытаюцца і пяюцца на вялікодным сэдэры. У новых формулях успаміналася дзівоснае выбаўленьне яўрэяў ад эгіпецкай няволі і заключае малітву да Іогву (т. к. наз. гэула) аб пазбаўленьні ад новай няволі; равіны стараліся прывіць думку, што мэсія прыйдзе абавязкова ў вялікодную ноч, рэкамэндавалі ставіць на стол асобны кубок для папярэдніка мэсіі, прарока-Ільлі і адчыняць дзьверы з заклікам: „благаславен той, хто павінен прыйсьці“. Калі ў канцы I ст. была зруйнована палестынская іудзейская абшчына і усё іудзейства была ў „расьсеяньні“, з вялікдзенем равіны і нацыяналістыя пачалі спалучаць мары аб адраджэньні іудзейскае дзяржавы. Перад адчыненымі для чакаемага мэсіі дзьвярмі пачалі гаварыць асобную малітву, напоўненую пракляцьцямі па адрасу ворагоў іўдзейства, і пяяць песьні такога-ж зьместу. Так вялікдзень спалучаўся з пачаткамі пазьнейшага ўтопічнага сіянізму, стаў прыладай для адцягненьня ўвагі эксплёатуемай вярхамі іудзейскай масы ад барацьбы за свае сацыяльнае вызваленьне ў бок незьдзяйсьнімых, утапічных і зацемняючых сьвядомасьць лятуценьняў і мар. У некалькі зьмягчоным выглядзе гэты характар яўрэйскі вялікдзень захаваў і да нашых дзён. Хрысьціянскі вялікдзень зьвязаны з яўрэйскім толькі агульнай назвай „пасха“ скажоная грэцкая перадача яўрэйскага слова „пэсах“; назва гэтае была прынята на падставе чыста вонкавага прызнаку, іменна, таму, што паводле эвангельскай легенды Хрыстос быў пакараны сьмерцю напярэдадні яўрэйскага вялікдзеня, а ўваскрэс на другі дзень яго. Хрысьціянскі вялікдзень у яго сучасным выглядзі ўзьнік толькі ў III ст. нашай эры. Першыя хрысьціянскія абшчыны зусім не сьвяткавалі ўваскрошаньне Хрыста, усе іх надзеі былі накіраваны на тое, што Хрыстос (Мэсія) зьявіцца ў якасьці дзівоснага выбавіцеля, які зробіць сусьветны і сацыяльны пераварот, пакладзе канец цяжкай хрысьціянскай долі і стварыць царства дзівоснага дабрабыту і здаваленьня. Можна толькі меркаваць, што хрысьціяне з іудзеяў сьвяткавалі яўрэйскі вялікдзень з яго новым мэсыянічным значэньнем, а хрысьціяне з іншых народаў сьвяткавалі так званы вялікдзень цярпеньняў, хаўтурны і посны дзень у гадавіну пакараньня сьмерцю Хрыста. З II ст. пачынаецца глыбокае перараджэньне хрысьціянства. Зьмяняецца яго сацыяльны склад; калі ў I ст, хрысьціянства рэкрутавалася пераважна з гарадзкіх пралетарыяў, рамесьнікаў і нявольнікаў, то ў II ст. хрысьціянскія абшчыны пачынаюць камплектавацца таксама купцамі, чыноўнікамі, нават вышэйшымі афіцэрамі і сал-

датамі; апошнія ў досыць значным процанце былі з сялян. Кіраўніцтва пераходзіць да буржуазнай верхавіны; зараз жа зьмяняецца і ідэолёгія. Мэсіянізм і чаканьне канца сьвету (эсхаталёгія) не былі адпаведнымі тэорыямі для новых груп; яны хацелі стварыць такую ідэолёгію, якая нічога не гаварыла-б нават аб звыш натуральным перавароце, але поўнасьцю ўсыпляла-б волю да сацыяльнай барацьбы, пераконвала ў неабходнасьці нявольніцкай пакорлівасьці існуючаму ладу і перанасіла бы ўсе надзеі на той сьвет. З гэтым імкненьнем спалучалася барацьба супроць канкураваўшых з хрысьціянствам культаў расьлінных багоў, у асаблівасьці з культам малаазійскага бога расьлінасьці і плоднасьці (ураджайнасьці). Артыса, які быў распаўсюджаны раней у Грэцыі і стаў у канцы III ст. вельмі папулярным у Рыме. У выніку было створана і пушчана ў ход вучэньне аб выбаўленьні людзей ад граху і сьмерці, сьмерцю і ўваскрошаньнем Хрыста, ён быццам бы сваімі мукамі на крыжу выкупіў усіх тых, хто ў яго верыць ад грахоў, а сваім уваскрошаньнем забясьпечыў веруючым у яго і ўваскрошаньне і вечнае жыцьцё ў раю. Каб папулірызаваць новае вучэньне, царкоўныя вучоныя бяруць прыклады з жыцьця расьлін і такім чынам набліжаюць Хрыста з расьлінным богам. Даказваючы догмат уваскрошаньня кажуць, што пры севе зерне памірае і гніе і робіцца не прыдатным для ежы, але затым абуджаецца ў выглядзе прыгожае травы і дае плёны, прыдатныя для ежы; што зімой дрэвы стаяць, як мёртвыя, а вясной да іх зьвяртаецца жыцьцё і зелень; гэтае штогодняе ўваскрошаньне быццам устаноўлена самім богам, каб замацаваць веру ўваскрошаньня Хрыста пачынаюць параўноўваюць з зернем кінутым ў зямлю, паміраючым там, але якое пасьля абуджаецца і дае хлеб жыцьця". Новае вучэньне патрэбна было падмацаваць таксама і аглушаючым дзеяньнем культа. Таму афіцыяльна ўстанаўляецца вясеньняе сьвята ўваскрошаньне хрыста, названае старым імем пасхі. Яе абраднасьць і нават некаторыя формулы былі ўзяты з вясеньніх сьвят у чэсьць уваскрошаньня Артыса; нават тэрмін сьвяткаваньня вялікдзеню (пасхі) супадаў спачатку з тэрмінам сьвята Артыса - 25 сакавіка. І толькі пасьля, у IV ст. было вырашана сьвяткаваць вялікдзень у розныя дні сакавіка-красавіка, якія вылічваліся асаблівым парадкам, каб хрысьціянская пасха не супадала з яўрэйскай. У такім выглядзе новае вучэньне і новае сьвята былі зразумелымі і пераканаўчымі для народнай масы земляробчых краін, якая прызвычалася да культу расьлінных багоў, якія быццам уваскрасаюць вясной разам з ажываньнем расьлінасьці. А гарадзкое насельніцтва, якое шукала ў рэлігіі спосабаў выратаваньня і выбаўленьня, адцягвалася ад натуральных, матар'яльных сродкаў барацьбы гіпнатызавалася надзеяй на дзівоснае выбаўленьне ад сьмерці і на вечнае жыцьцё на тым сьвеце. Разам з тым хрысьціянская царква ўсвоіўшы абраднасьць культа Артыса зрабіла Хрыста падобным да гэтага бога, атрымала магчымасьць пасьпяхова канкураваць з арганізацыяй прыхіль-

нікаў Артыса. Такім жа чынам у канцы IV ст. конкурэнцыя з культам другога ўсходняга бога, Мітры, прывяла да стварэньне сьвята нараджэньне Хрыста, у процівагу нараджэньню Мітры, якое сьвяткавалася 25 сьнежня.

Адрозьніваючыся ад яўрэйскае пасхі па свайму паходжаньне і характар, хрысьціянская пасха (вялікдзень) мае з яўрэйскай тую агульную рысу, што сацыяльна-рэакцыйная роля таго і другога сьвята аднолькавы. Абодва вялікадні рознымі мэтодамі імкнуцца да аднэй мэты: паралізаваць імкненьне да барацьбы за сапраўднае, а ні зданёвае, выратаваньне тут на зямлё, натуральнымі, матар'яльнымі сродкамі, рэвалюцыйным зьвяржэньнем улады эксплёататараў. Таксама абодвы вялікадні адрозьніваюцца шовіністычным характарам, яўрэйская пасха зьвязана з марамі аб сыонізме, аб аднаўленьні яўрэйскага палітычнага „быцьця", якое дасьць магчымасьць яўрэйскаму капіталу сканцэнтраваць, арганізаваць і пачаць уласьцівае ўсякае капіталу імпэрыялістычнае наступленьне; праўда пакуль што сыаністыя змушаны служыць ангельскаму капіталу, але яны спадзяюцца на адпаведную „узнагароду" і эксплёатацыю. А хрысьціянскі перадвялікодны культ падкрэсьліваў, што Хрыстос быў расьпінаны на крыжу іудзеямі, сеючы антысэмітызм; гэтаму садзейнічаюць і правілы, каб хрысьціянскі вялікдзень ніколі не супадаў з яўрэйскай пасхай. І як не стараюцца папы адмаўляць антысэміцкае значэньне вялікдзеню, яно ўсё-ж ясна выкрываецца хоць бы з таго факту, што яўрэйскія пагромы арганізоўваліся не раз іменна ў вялікодныя дні, і пагромшчыкі выступалі з лёзунгамі помсты за Хрыста і з крывавага навету, што яўрэі для прыгатаваньня вялікоднай мацы ўжываюць хрысьціянскую кроў.

На Захадзе антысэміцкі характар вялікдзеню быў рэзка выражан у сярэднія вякі, цяпер значна патускнеў; але, аднак, вялікдзень не страціў свайго рэакцыйнага значэньня. Асабліва яго гіпнатызуючае вазьдзеяньне заметна ў каталіцкім кульце; каталіцкае богаслужэньне „страстной" нядзелі і вялікдзеню абстаўлена асабліва пышнымі тэатральнымі цэрамоніямі і асабліва выразнай музыкай і пяяньнем; не мала садзейнічалі каталіцкай царкве ў гэтых адносінах і славутыя кампазытары, накшталт, Росіні. У пратэстанцкіх краінах сьвята вялікдзеню ўступае першае месца сьвяту калядаў; але і там яно адзначаецца асаблівымі богаслужэбнымі цэрамоніямі, і там пад час „страстной" нядзелі і на вялікдзень ва ўсіх цэрквах гучыць асабліва ўрачыстая музыка, і там для гэтых службаў пісаў канты, арганныя нумары гэтакі славуты кампазытар, як Іоган Сэбастыян Бах. Цэркаў у перадвялікодныя і вялікодныя дні выступае ў поўным узброеньні, у асьляпляючай бліскучасьці; поруч з ёй выступае буржуазная дзяржаве, упісаўшая вялікую Пятніцу і вялікдзень у лік самых важных сьвятаў. Змагаючыся супроць рэлігійнага гіпнозу, мы павінны быць па самым галоўных яго крыніцах; чытаць, бачыць,

што адным з важнейшых зьяўляецца вялікдзень і таму супроць вялікодная агітацыя павінна стаць у цэнтры нашае ўвагі. Нам ёсьць што супроць-ставіць вялікдзеньню: блізкае да яго па часу пралетарскае сьвята прыпадае і гэтым годзе на апошні дзень яўрэйскае пасхі (дзень нагэтулькі важны для веруючага яўрэя, як і першы) і за 2 дні да праваслаўнага вялікдзеню. Гэта палягчае зараз нашу барацьбу і павялічвае нашы шансы на перамогу.

---

**Барацьбу з рэлігіяй нельга абмяжоўваць абстрактна ідэолёгічнай пропаведзьдзю, нельга зводзіць да такой пропаведзі, гэтую барацьбу неабходна паставіць у сувязь з канкрэтнай практыкай клясавага руху, накіраванага на зьнішчэньне сацыяльных карэньняў рэлігіі.**

**(Ленін—том XI, частка I, стар. 253)**

# На мясцох

## З практыкі Аршанскай АПШ.

### Агульнае становішча школы.

Дзякуючы шырокай растлумачальнай працы, праведзенай ячэйкамі да пачатку навучальнага году, АПШ ахапіла значную колькасьць кандыдатаў КПБ, беспартыйных рабочых, КСМ, а таксама членаў партыі, нямаючых ведаў па праграме АПШ. Усяго ахоплена школай 162, з іх партыйцаў 38, камсамольцаў 56, беспартыйных 68 (актыў). Дадатным зьяўляецца павялічэньне ахопу школай жанчын; у мінулым годзе жанчын было ў школе 11, ці 10,5% да агульнага складу слухачоў, а ў гэтым годзе 38 ці 23,4% Школа разьбіта на 4 групы: 2 групы дарослых рабочых, 1 група з моладзі і 1 з служачых. Трэба адзначыць, што некаторыя слухачы адстаюць ад агульнай масы па свайму разьвіцьцю і не пасьпяваюць у вучобе—гэта галоўным чынам, малапісьменныя таварышы. У будучым навучальным годзе трэба будзе лічыцца з гэтым недахопам і пры ўкамплектаваньні школы больш дакладна правяраць агульна-адукацыйную падрыхтоўку слухачоў.

Матар'яльнае становішча школы значна лепшае, чымся ў мінулым годзе. Школа забясьпечана добрым памяшканьнем, электрычным асьвятленьнем, усе слухачы забясьпечаны падручнікамі. Да недахопаў трэба аднесьці холад, бо частка памяшканьня дрэнна апальваецца і тое, што слухачы сядзяць на Занятках у верхняй вопратцы, што ў некаторай ступені перашкаджае нормальнам заняткам. Гэтыя недахопы магчыма і трэба зараз-жа зьнішчыць, школа забясьпечана дастатковымі сродкамі для лепшага апалу.

### Як працавала школа.

Школа распачала працу сваечасова і працуе без зрываў, што зьяўляецца дасягненьнем у параўнаньні з мінулым годам, дзе зрывы заняткаў былі звычайнымі зьявішчамі.

Гэта дасягненьне зьяўляеецца вынікам большай зацікаўленасьці слухачоў вучобай, забароны з боку акруговага камітэту партыі занімаць дні вучобы пасяджэньнямі і сходамі (тут-жа трэба сказаць, што некаторыя ячэйкі і фракцыі савецкіх установ і гра-

мадзкіх арганізацый часам ня выконваюць гэтай пастановы АК, аб лепшым падбору прапагандыстых.

Заняткі пачынаюцца сваечасова: спазьненьняў не наглядаецца ні з боку слухачоў, ні з боку кіраўнікоў.

Вялікімі недахопамі ў працы школы зьяуляецца значны адсеў слухачоў і недастатковае наведваньне заняткаў, Адсеў складае 35% да агульнага складу ахопленых школай ў пачатку навучальнага году, пры чым, адсеў па партыйнасьці характэрызуецца наступнымі лічбамі: беспартыйных выбыла з школы 44% да агульнага ліку беспартыйных ў школе, партыйцаў 40% і камсамольцаў—21,4%; асабліва дрэнным фактам зьяўляецца значны адсеў партыйцаў.

Галоўнымі прычынамі такога значнага адсеву зьяўляецца: па першае,—ня зусім сур'ёзны падход часткі ячэек да ўкамплектаваньня школы, пасылка імі ў АПШ малапісьменных пасылка ня маючых магчымасьці наведваць школу па ўмовам сваёй працы (працуючых на 2-3 зьменах, на вячэрніх дзяжурствах, выезджаючых у камандзіроўкі і г. д), па другое—уход часткі слухачоу у вячэрні Рабфак які быў пазьней АПШ адчынены.

Наведваньне школы наогул зьяўляецца здавальняючым (75%) але за апошнія два месяцы значна панізілась (1-шы месяц—86%, 2-гі месяц 83%, 3-ці месяц і 4-ты месяц 67,5%), пры чым наведваньне камуністымі заняткаў значна ніжэй чым камсамольцаў і беспартыйных, беспартыйныя наведваюць на 79,3% камсамольцы 75,5%, а камуністы 65,8%.

Галоўнымі прычынамі паніжэньня наведваньня школы, асабліва за апошні час, зьяўляецца вялікія марозы ў апошні месяц, а таксама масавыя захвараньні (грыпп, ангіна, і інш) справаздачна-перавыбарчая кампанія Гарсавету, ЦРК, На днёх склікан агульны сход слаба наведваючых заняткі, сумесна з сакратарамі ячэек. Для таго, каб ухіліцца масавага адсеву ў будучым годзе, Трэба прыстасаваць формы і час вучобы да тых, якія па ўмовах працы ня могуць наведваць вячэрнюю школу, праводзячы заняткі гурткоў па зьменах, ці ў свабодны для ўсіх дзень (такі гурток працуе на браварным заводзе).

З 15/II пачала працу арганізаваная група з прынятых у партыю ў ленінскія дні (34 чалавека). Гэтая група на пряцягу 4-х месяцаў прапацуе праграму АПШ. *).

Найлепш ужываецца ў АПШ мэтад жывой гутаркі. Мэтад дакладаў які практыкаваўся раней у аднэй групе сябе не апраўдаў,—бо зьмяншаецца актыўнасьць і самадзейнасьць слухачоў, Адсутнічае ўязка прапрацоўваемага ў школе матар'ялу з сучаснасьцю і слабая ўвязка з мясцовым матар'ялам і практыкай слухачоў, адсюль назіраецца слабая актыўнасьць пад час гутаркі. За 4 месяцы сваёй працы школа не прывучыла слухачоў рэгулярна чытаць газэту. Школа працуе на беларускай мове. За апошні

---

*) Гэткія групы арганізуюцца і ў іншых раёнах акругі.

месяц беларуская мова як дысцыпліна, ў школе была сарвана. Гэта-ж самае назіраецца і ў дачыненьні да іншых агульна адукацыйных дысцыплін, якія з пачатку праходзілі пры вялікім спачуваньні з боку слухачоў.

У школе прапрацованы пастановы Лістападаўскага пленуму ЦК УсеКП і ЦК КП(б)Б, але-ж трэба адзначыць, што высьвятленьне карэньняў і сутнасьці правага і левага ўхілу невыстарчальнае. Школа была слаба выкарыстана як асяродак ідэолёгічнай барацьбы з ухіламі ў партыі, не высьвятліліся ў школе канкрэтныя мясцовыя выпадкі праяўленьня правага ўхілу і прымірэнчых адносін да яго. Мятар'ял справаздачна-перавыбарчай кампаніі саветаў зусім ня выкарыстаны. Недастаткова ўвязаны матар'ялы Пленуму ЦК з асобнымі гутаркамі і праграмай школы ў цэлым. Недахопы ў мэтодыцы і якасьці выкладаньня зьяўляюцца вынікам слабай мэтадычнай падрыхтоўкі. Мэтадычныя сэмінары зьбіраліся толькі два разы.

Трэба скарыстаць рэшту часу які застаўся да канца заняткаў для зьнішчэньня недахопаў. Газэта павінна стаць другім падручнікам для слухачоў. На сходзе слухачоў трэба абгаварыць пытаньне аб вывучэньне беларускай мовы і аб агульна-адукацыйных дысцыплінах. Гутаркі якія павінны быць праведзены праграмы ўвязаць з вывучэньнем пастаноў Лістападаўскага пленуму ЦК УсеКП(б) і ЦК КП(б)Б і XII-га зьезду КП(б)Б. Неабходна адвесьці 2-3 гутаркі для спэцыяльнай, больш паглыбленай прапрацоўкі пастаноў XII зьезду КП(б(Б і аб барацьбе з правым ухілам. Трэба поўнасьцю выкарыстаць мясцовыя выпадкі праяўленьня правага ухілу і прымірэнчых адносін да яго, каб на гэтых фактах навучыць слухачоў добра разумець карэньні і зьмест правага ўхілу і неабходнасьці рашучай барацьбы з імі, асабліва ў сучасны пэрыяд.

АПА-Габінэт павінен прысьці на дапамогу АПШ ў справе мэтадычнай падрыхтоўкі выкладчыкаў і забясьпячэньня мясцовым матар'ялам.

**Л. Цайлінгольд.**

---

# Партасьвета ў Барысаве

Падрыхтоўка да новага навучальнага году ў Барысаве паказала, што як з боку партыйцаў, так і асабліва з боку беспартыйных маецца вельмі вялікая цяга да партыйнай асьветы.

Але невыстарчальна ўважлівыя адносіны да камплектаваньня, часамі няўмелае, часамі фармальнае (камплектаваньне праводзілася сіламі слухачоў курсаў рабочых-пропагандыстых, праводзіўшых гэтую працу ўпяршыню), далі вельмі адмоўныя вынікі; у школу пайшло значна менш, чым запісалася. Усё-ж і лік пачаўшых заняткі досыць значны. У адзінай школе пачало займацца

430 чал. з якіх—партыйцаў 188, камсамольцаў 58, беспартыйных 184. У вячэрняй савпартшколе—партыйцаў, 131 камсамольцаў 47, беспартыйных 81, разам 259 чал.

Трэба адзначыць, што ячэйкі вельмі мала цікавіліся партыйнай асьветай, асабліва на прадпрыемствах. Так, для заняткаў не адводзілася пэўнага памяшканьня (зав. Профінтэрн); адведзенае для заняткаў памяшканьне не апальваецца (зав. Р. Люксембург), дрэнна асьвятляецца (зав. Домбаль), а ў некаторых мясцох ёсьць усе гэтыя недахопы. Дні партвучобы перагружаны living рознымі паседжаньнямі, сходамі і інш.

АПШ займаецца два разы на тыдзень. У большасьці ўжываецца мэтад гучнай чыткі, бяз пэўнай прапрацоўкі прачытанага, слухачы ня прывучаюцца самастойна працаваць над кнігай, ня ўжываецца нават пачатковае прывучэньне да складаньня канспэкту, або запісу асноўных думак прачытанага. Мясцовы матар'ял ня скарыстоўваецца, няма нават належнай увязкі з сучаснасьцю, няўменьне ў некаторых выпадках скарыставаць актыўнасьць слухачоў і г. д.

Дзякуючы такой пастаноўцы працы, мы маем на 1/II—29 г. паводле сьпіску ў АПШ 295 чал. з іх партыйцаў 143, камсамольцаў 36, беспартыйных 116, пры чым трэба дадаць, што наведваньне школ амаль нідзе не перавышае 70%, у некаторых мясцох складае 30-35%, а ў сярэднім складае не больш 50-55%.

Апрацаваныя заданьні для адзінай партыйнай школы зусім не выкарыстоўваюцца, альбо выкарыстоўваюцца цалком (бяз зьмены выходзячы з ўмоў сваёй групы). Мэтадычныя-ж сэмінары кіраўнікоў АПШ вельмі мала адводзяць часу для абгаварэньня гэтых заданьняў.

Лепш справа пастаўлена ў СПШ. Аб стварэньні адпаведных умоў для працы СПШ клапаціліся прапагандыстыя гораду, якія ўсю працу (часам без усялякай дапамогі з боку ячэек) цягнулі на сваіх плячох.

Ня гледзячы на тое, што адсеў у гэтай школе досыць значны (каля 42%) усё-ж гэта на працы школ адбілася менш, бо адсеў адбываўся ў першыя тыдні заняткаў, а ў далейшем заняткі праводзіліся амаль пры стабільным складзе слухачоў. Процант наведваньня СПШ у сярэднім даходзіць да 75% (пры ўмовах працы некаторых прадпрыемстваў у 2-3-4 зьмены) што трэба лічыць досыць добрым.

Мэтадычная пастаноўка працы ў школе мае некаторыя недахопы. Вельмі слаба праводзіцца лябараторная праца. Таксама практыкуецца гучная чытка, а калі нават ідзе праца ў групах, то дастатковага кіраўніцтва з боку кіраўніка групы няма. Зусім мала практыкуецца складаньне канспэктаў, не практыкавалася дача заданьняў (пісьмовых) на дом, заданьні для школы апрацаваны ня досыць старанна (часамі вельмі спрошчаная).

Лепш праходзяць канфэрэнцыі, якія праходзяць пры ўдзеле слухачоў, і тэма, якая абгаварваецца ўспрымаецца не формальна.

Наогул кажучы, слухачы СПШ асноўныя веды па прадметам, якія яны праходзяць, атрымаюць разам з тым у іх абуджаецца імкненьне да далейшай асьветы (аб чым сьведчыць шэраг заяў аб прыняцьці ў Комвуз і досыць акуратнае наведваньне школы).

У апошнія часы Гарком партыі і асабліва ячэйкі заварушыліся і пачалі ўжываць меры да палепшаньня якасьці працы, асабліва АПШ і трэба спадзявацца, што паказаныя недахопы дапамогуць кіраўнікам школ, ячэйкам і прапагандыстым забясьпечыць палепшаньне якасьці працы ў школе і замацаваць склад слухачоў у школе, якія засталіся на другое паўгодзьдзе.

В.

---

## Партасьвета ў Койданаве.

### Ёсьць магчымасьці але ў Койданаве мала ўвагі зьвяртаюць для іх скарыстаньня

Адным з асноўных недахопаў у партасьвеце ў Койданаве— гэта тое, што гэтаму пытаньню з самага пачатку навучальнага году прыдалі кампанейскі характар, што дало толькі надворны часовы эфэкт.

Койданаўская партарганізацыя ахоплена была партыйнай вучобай на 98%, апрача гэтага 30% была ахоплена беспартыйнага актыву. Былі створаны школы і гурткі і нават нядзельны КамВНУ.

З надворнага боку як быццам усё добра.

На справе ахоп быў фармальны, адсутнічала вывучэньне ўмоў працы кожнага партыйца, ўжо пасьля першай паловы года мы маем адсеў 35%, але і з тых, якія лічацца слухачамі школы ёсьць і такія, што наведвалі школу за ўвесь час працы яе толькі 2—3 разы. Прычына гэтага так, што паміма разьездаў, кампаній, самая якасьць працы школы ня можа дастаткова здаволіць запатрабаваньні слухачоў.

Перш за ўсё-гэта недастаткова падрыхтаваны склад прапагандыстых (на вёсцы), па-другое—пагоня за колькасьцю прахаджэньня праграмы, што бязумоўна не дае магчымасьці зрабіць яе цікавай для слухача.

У прапрацоўцы праграм адсутнічае ўвязка з пытаньнямі сучаснасьці, мясцовымі пытаньнямі. з важнейшымі пастановамі партыі. Абстрактнасьць і ня цікава зьмест праграмы, вось адна з галоўнейшых прычын, якая адшторнула частку слухачоў школ і зьменшыла наведваньне.

Прыкладам, як мала зьвяртаюць увагі важнейшым партыйным пытаньням можа служыць тое, што ўсю працу VI Кангрэсу

Камінтэрну прапрацавалі ў адну гутарку. Такое жа становішча і з пастановамі лістападаўскага пленуму ЦК.

Зусім ня была прапрацавана пытаньне ў школе аб перавыбарах саветаў. Гэта ўсё пры ўмовах, калі слухачы самастойна на даму ўсе гэтыя пастановы не прапрацавалі.

Другім недахопам зьяўляецца амаль поўная адсутнасьць у сетцы партасьветы батракоў, ды ўвесь склад беспартыйных слухачоў школ і гурткоў недастаткова падобран, большасьць з іх служачыя.

Нядзельны КамВНУ створаны для раённага актыву працаваў за ўвесь час чатыры разы, што тлумачыцца адсутнасьцю стабільнага складу выкладчыкаў.

Зараз аб умовах, якія маюцца для пастаноўкі партасьветы у Койданаве. Па маёй думцы, яны лепыыя, як у іншых нашых раёнах.

Перш за ўсё гэта склад прапагандыстых у раённым цэнтры (Койданаве, Негарэлае), якія здавольняюча падрыхтаваны. Гэты склад магчыма скарыстаць для жывога інструктаваньня школ, гурткоу на вёсцы, для прымацаваньня да таварышаў, якія па ўмовах працы лепш было-б займацца самаадукацыяй. Для правядзеньня мэтоднарад пропагандыстых вёскі, па-другое—у Койданаве ёсьць добрае памяшканьне для заняткаў, чаго няма ва ўсіх раёнах. Трэцяе—падручнікі, Койданаўскі раён забясьпечан амаль што на 100%, чаго ня было ў мінулыя годы.

Чацьвёртае—ёсьць памяшканьне для партгабінету, які магчыма скарыстаць для дзяжурства прапагандыстых-кансультантаў, для забясьпечэньня мясцовымі матар'яламі і наогул дапаможнікамі і гэтак далей.

Трэба рашуча ўзяцца за скарыстаньне магчымасьцяй, якія ёсьць у Койданове.

**Эрэнбург.**

---

## Некаторыя заўвагі аб працы агітпропгабінэту

### (Мозыр)

Агітпропгабінэт існаваў у Мозыры і ў мінулым годзе, але аб тагочасным яго існаваньні не прыдзецца спыняцца з прычыны таго, што ён ня змог разгарнуць работу нават па згуртаваньні вакол сябе прапагандыстых, не кажучы ўжо аб ўсей астатняй масе партактыву.

У гэтым годзе набыта адпаведная літаратура па розных пытаньнях, сам габінэт пераведзен у цэнтр гораду і, такім чынам, створаны больш спрыяючыя ўмовы для вучобы.

Ня гледзячы на ўсё гэта, належнага пераломy з боку партактыву да вучобы мы ўсё-жа не атрымалі. Аб гэтым красамоўна

таворац лічбы аб наведваньні апагабінэту: у сярэднім у дзень наведвае толькі 7 чалавек. Апроч таго, з гарадзкога партактыву атрымала заданьні па розных пытаньнях толькі 28 чалавек. Праўда, стала працуе пры АК КП(б)Б (з горпартактыву) гурток бягучай палітыкі, які налічвае да 40 чалавек, але ўсё-жа партактыў зусім нясур'ёзна адносіцца да ўзьняцьця свайго палітычнага ўзроўню.

Апагабінэт трымае таксама сувязь з партактывам 4-х раёнаў (атрымала розныя заданьні да 70 чал.), але пакуль што ня думаюць іх здаваць.

Калі прыглядзецца да партактыву, асабліва раённага, дык убачым, што ён адстае і значна адстае. Таварышы па цэламу шэрагу пытаньняў блытаюцца, ня могуць даць правільнага адказу на важнейшыя пытаньні, а некаторыя дзякуючы сваёй непадрыхтованасьці займаюць ролю „маўчальнікаў". Заўсёды, калі пачынаеш гаварыць па гэтым пытаньні, атрымліваеш адказы: „дзе тут вучобай займацца, няма нават часу і газэты пачытаць, калі заняты ўвесь час правядзеньнем кампаній". Мы ахвотна верым гэтым таварышом, што яны занадта заняты, перагружаны, але ніяк ня хочацца верыць, што ўсе гэтыя таварышы ня зробяць палітычных памылак у сваёй працы. Бо як можна праводзіць работу, ня ведаючы падчас чаго і для чаго ты гэта робіш? Практыка работы таксама паказвае, што на практычнай працы робяцца вялікія памылкі, а гэта мае цесную сувязь з пытаньнем палітвучобы, з пытаньнем узьняцьця свайго палітузроўню.

Як станоўчы момант трэба адзначыць гэта тое, што пытаньню прапрацоўкі правага ўхілу зьвернута досыць сур'ёзная ўвага (з агульнага ліку 535 наведвальнікаў габінэту, 168 прападае на наведваньне па прапрацоўцы гэтага пытаньня).

**Ш. Ш.**



